


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

28 ВЕРАСНЯ 2001г. № 39/4121 КОШТ 132 РУБ.







*Фота Ул. КРУКА*

# Знакавая постаць

Ён мог бы быць усяго толькі паэтам. І гэтага было б больш чым дастаткова, каб мець поспех і славу.

Ён мог бы быць усяго толькі перакладчыкам, які бліскуча перакладае з арыгінала пісьменнікаў многіх славянскіх краін, і гэтага таксама было б даволі, каб пачуваць сябе ўтульна і камфортна ў літаратуры.

Ён мог бы быць усяго толькі крытыкам і публіцыстам, і гэтага таксама было б досыць, каб мець сваю нішу ў нашым красным пісьменстве.

Зрэшты, калі б ён быў проста вучоным-філолагам — ягоныя лекцыі і навуковыя працы (гэта сцвярджаюць яго колішнія вучні) прынеслі б яму не толькі папулярнасць, але і любоў тысячаў і тысячаў студэнтаў.

Гэтых **мог** і **калі б** збіраецца, як бачыце, дужа багата, і таму давайце адкінем убок умоўны лад: Бог і прырода паступілі шчодра і мудра, сканцэнтраваўшы ўсё гэта ў адной постаці — знакавай постаці народнага паэта Беларусі, вядомага грамадскага дзеяча Ніла Гілевіча.



# КОЛА ДЗЁН

***"Беларускі кнігазбор" у серыі "Гісторыка-літаратурныя помнікі" выпусціў чарговую кнігу — "Беларусы" Яўхіма Карскага (скарочаны варыянт). Але і ў такім выглядзе кніга, як слушна адзначаецца ў прадмове, напісанай Я.Янушкевічам і К.Цвіркам, "павінна стаць настольнай кнігай кожнага беларуса".***

***Аднак першыя ж старонкі фундаментальнага даследавання нашага славутага вучонага наводзяць на сумны одум. Я.Карскі першы вызначыў этнаграфічныя межы Беларусі, паклаўшы ў аснову гэтага вызначэння мову жыхароў краю. Ён пералічвае ўсе тадышнія паветы, якія "знают белорусскую речь", сярод іх — і такія: Аўгустоўскі, Бранскі, два Бельскія (Гродзенскай і Смаленскай губерняў), Беластоцкі, Вяліжскі, Вялікалуцкі, Віленскі, Гараднянскі, Дзвінскі, Дарагабужскі, Ельнінскі, Жыздрынскі, Зубцоўскі, Ілукскі, Красненскі, Люцынскі, Масальскі, Мглінскі, Невельскі, Ноўгарад-Северскі, Новааляксандраўскі, Навазыбкаўскі, Апочацкі, Асташкаўскі, Парэцкі, Раслаўскі, Ржэцкі, Свянцянскі, Себежскі, Сейненскі, Смаленскі, Сакольскі, Старадубскі, Суражскі, Таранецкі, Трокскі, Трубчэўскі. Усе гэтыя мясціны-тэрыторыі — за межамі сённяшняй Беларусі. Вось як кроілі-дзялілі наш край! Ды яшчэ больш сумна і горка ад таго, што і ў тых былых паветах, якія складаюць цяперашнюю Рэспубліку Беларусь (Бабруйскі, Барысаўскі, Быхаўскі, Вілейскі, Віцебскі, Ваўкавыскі, Гомельскі, Горацкі, Гарадоцкі, Гродзенскі, Дзісненскі, Дрысенскі, Ігуменскі, Клімавіцкі, Лепельскі, Лідскі, Мінскі, Магілёўскі, Мазырскі, Мсціслаўскі, Навагрудскі, Аршанскі, Ашмянскі, Пінскі, Полацкі, Пружанскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі, Слонімскі, Слуцкі, Сенненскі, Чавускі і Чэрыкаўскі), трактамі і гасцінцамі якіх ездзіў Яўхім Хведаравіч, услухоўваючыся ў гаворку тутэйшых жыхароў, сёння беларускае слова гучыць усё радзей і глушэй...***

***А тым часам, як любяць гаварыць вядучыя БТ, адбыліся прэзідэнцкія выбары і фармуецца новы (стары?) урад еўрапейскай (па месцазнаходжанні?) краіны, назва якой — Рэспубліка Беларусь — мала што гаворыць, на жаль, пра яе нацыянальнае аблічча, пра нацыянальныя формы жыцця-быцця карэннага народа гэтага куточка планеты Зямля.***

### БУЛЬБА ТЫДНЯ

Ідзе ўборка "другога хлеба" — славутай беларускай бульбачкі. Сёлета яна ўрадзіла не надта. На Віцебшчыне, напрыклад, гектар дае ўсяго недзе каля 80 цэнтнераў. Больш шчодрыя прыватныя соткі і фермерскія палеткі, так што без бульбы, будзем спадзявацца, не застанемся. Але той факт, што ў верасні — самым бульбяным месяцы! — кіло яе на базары каштуе 250—300 і больш рублёў, не можа не трывожыць...

### СІРОТЫ ТЫДНЯ

У краіне — больш чым 30 тысяч сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў. І гэта ў мірнай, стабільнай Беларусі! Для паляпшэння іх лёсу сёе-тое робіцца. У прыватнасці, дзеці ўладкоўваюцца ў новыя сем'і, у сямейныя дзіцячыя дамы, многім дапамагаюць дзіцячыя сацыяльныя прытулкі і сацыяльна-педагагічныя цэнтры — новыя формы ўладкавання дзяцей. Але, тым не менш, праблемы застаюцца, і на фоне трагедыі гэтых тысяч сірот (найчасцей пры жывых бацьках) бляднеюць усе іншыя поспехі краіны (у эканоміцы, будаўніцтве, гандлёва-фінансавай сферы), пра што мы гэтак ахвотна і шмат гаворым...

### ЗАЙЗДРАСЦЬ ТЫДНЯ

Сусветны банк прыняў рашэнне аб выдзяленні Украіне крэдыту на суму 250 мільёнаў долараў. Зайздрасць, кажуць, благое пачуццё, але ўсё ж цяжка не пазайздросціць суседзям: крэдыт, несумненна, дапаможа ёй акрыяць. Калі ж Сусветны банк зробіць падобны крок і ў дачыненні да нашай беднай краіны?

### АДНАЎЛЕННЕ ТЫДНЯ

Зноў аднавіў прыём наведвальнікаў візавы аддзел пасольства ФРГ у Мінску. Ён быў зачынены на рэканструкцыю памяшкання з мэтаю — павялічыць яго пропускныя магчымасці, бо нашы людзі ўсё часцей ездзяць у Германію. Летась там пабывала ажно 110 тысяч жыхароў нашай краіны, сёлета, па ўсім відаць, будзе ці не на чвэрць больш. У добры шлях, як кажуць! У немцаў ёсць чаму павучыцца. Адно толькі, каб гэтая вучоба была больш дзейснай, прынесла канкрэтную карысць усім нам, спрыяла рэальнаму набліжэнню Беларусі да Еўропы...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

У аўторак споўнілася 30 гадоў з дня адкрыцця мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой". За гэтыя гады святыню над Бугам наведалі сотні тысяч людзей з усіх канцоў свету. Толькі летась тут пабывалі больш чым 130 тысяч экскурсантаў. Многае хвалюе і ўражвае ў крэпасці. Аднак жа ёсць пытанне і ў тым, што ці не больш бы яна ўражвала і хвалявала, каб там не было сённяшніх монстраў, а былі б усяго толькі шчодра палітыя крывёю абаронцаў руіны (адпаведным чынам захаваныя) крэпасных фортаў і бастыёнаў?

### ПЕРАМОЖЦЫ ТЫДНЯ

Газета "Беларуская ніва" (штораз даводзіцца спатыкацца на гэтай назве выдання, адрасаванага беларускім вяскоўцам!) 25 верасня апублікавала спіс пераможцаў "рэспубліканскага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур у 2001 годзе". У спісе — 1 вобласць (Гродзенская), 6 раёнаў (Іванаўскі, Докшыцкі, Рэчыцкі, Гродзенскі, Нясвіжскі і Касцюковіцкі), 18 калгасаў, саўгасаў і калектыўных аграпрамысловых прадпрыемстваў і некалькі соцень камбайнераў і вадзіцеляў грузавікоў. Вядома ж, слава і пашана хлебаробам, паклон іх мазолістым рукам! Толькі ж гэтыя вялізныя — на цэлыя газетныя палосы! — спісы міжволі нагадваюць колішнія, ужо досыць даўнія гады, калі па партыйных разнарадках пякліся сотні і тысячы герояў сацпрацы і ардэнаносцаў у краіне, у якой людзі стаялі ў доўгіх чэргах па хлеб, малако і мяса...

### ЗГАДКА ТЫДНЯ...

Напярэдадні дня памяці П.Машэрава (4 кастрычніка) "Народная газета" за 26 верасня згадвае такі выпадак. Недзе з чвэрць веку назад, падчас чарговай прэзідэнцкай кампаніі ў ЗША, адзін уплывовы часопіс правёў тэст-анкету сярод сваіх чытачоў: "Хто з замежных дзеячаў мог бы стаць прэзідэнтам ЗША?" І сярод "кандыдатаў" на першым месцы аказалася прозвішча першага сакратара ЦК КПБ. У СССР гэтая інфармацыя не прагучала: баяліся пакрыўдзіць "дарагога Леаніда Ільіча". Усцешымся і паганарымся хоць цяпер?

### СТУДЭНТЫ ТЫДНЯ

Сёлета студэнтамі дзяржаўных ВНУ сталі 58 тысяч чалавек — на тысячу больш, чым летась. У недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы паступілі 11,4 тысячы чалавек — на 700 больш, чым летась. Значыць, мы расцем інтэлектуальна, па колькасці студэнтаў на тысячу насельніцтва абганяем многія еўрапейскія краіны? Чаму ж тады, па агульным прызнанні, духоўны ўзровень нашых людзей не падымаецца, а зніжаецца?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Чарговы раз у бібліятэцы Саюза пісьменнікаў сабраліся прыхільнікі роднага слова, аматары паэзіі, вучні і настаўнікі. Урок, прысвечаны мастаку, кампазітару, паэту Сяргею Новіку-Пеюну, на якім у якасці вядучага выступіў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч, быў не зусім звычайным: на экране тэлевізара гучаў з відэакасеты голас самога Сяргея Міхайлавіча, што расказваў пра свой пакутны шлях, спяваў песні на ўласныя словы. Ён перажыў польскую і нямецкую акупацыі, савецкі рэжым, доўгія гады правёў у вязніцы, у турэмнай камеры, у чаканні расстрэлу, пісаў цудоўныя радкі пра волю, каханне, жыццё. Як адзначалі выступоўцы — Васіль Жуковіч, Віктар Шніп, Галіна Дзягілева, якая чытала таксама вершы паэта — з ягоных рук выбівалі пэндзаль, скрыпку, пяро, а ён рабіў дабро паўсюдна, дзе толькі мог, там, куды закідваў яго лёс, саграваў людзей цяплом душы, для якой найдаражэйшым скарбам была радзіма — Беларусь. Ён пражыў доўгае жыццё, але пабачылі свет усяго толькі некалькі танюткіх кніжачак яго паэзіі: адна з іх — зборнік "Песні з-за кратаў", выдадзены ў 1993 годзе ў "Мастацкай літаратуры" тыражом 3300 асобнікаў. Пад кожным вершам пазначана месца стварэння: польскія, савецкія, нямецкія вязніцы і высылкі. Ён дачакаўся вызвалення, але 30 гадоў, праведзеных на волі, важкага творчага плёну ўжо не далі: відаць, нешта надламілася, назаўжды разбурылася ў душы, ён не хацеў, не мог варушыць мінулае. Ля партрэта Сяргея Міхайлавіча ляжалі яркія восеньскія кветкі, але ён варты і большых партрэтаў, і лепшых кветак, зазначыў Васіль Жуковіч, які быў добра знаёмы з паэтам. Песні "Зорачкі" і "Вечар над Шчарай" прагучалі ў запісе славутага Данчыка.

**М.Р.**

## Новае кіраўніцтва

Адбылося пасяджэнне новага складу прыёмнай камісіі СБП. На ім вырашана арганізацыйнае пытанне: старшынёй камісіі абраны Генрых Далідовіч, яго намеснікам — Алесь Бадак, сакратаром — Яўген Каршукоў. Усю работу прыёмнай камісіі курыруе намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч.

На сваім першым пасяджэнні члены прыёмнай камісіі таксама абгаварылі некаторыя моманты яе далейшай дзейнасці.

**Я.ІВАНОЎ**

АНОНС

# Дзеля міру, любові, дабра

30 верасня ў Мінску пачнецца VI Міжнародны фестываль песняспеваў. Ён праходзіць па благаслаўленні Яго Высокапрэасвяшчэнства Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта.

Першы фестываль адбыўся ў 1989 годзе. Тады ўпершыню ў Мінску са сцэны гучалі праваслаўныя літургічныя песняспевы ў выкананні прафесійных і царкоўных харавых калектываў Беларусі, Расіі, Эстоніі, Украіны.

Аб'яднанне ў фестывалі царкоўных і свецкіх хораў дапамагае ўзаемаабагачэнню іх творчасці: свецкія выканаўцы маюць магчымасць навучыцца разумець малітву, а царкоўныя пеўчыя — узняць выканаўчы ўзровень.

Адна з абавязковых умоў удзелу ў фестывалі — выкананне ў конкурснай праграме песняспеву знаменнага распеву ў кампазіцыі сучаснага аўтара. Патрабаванне выканання старадаўніх распеваў стымулюе рэгентаў і дырыжораў паварочваццa да асноў музычна-пеўчай царквы.

Песняспевы знаменнага распеву адчыняюць слухачам новае: з дапамогай музычных гукаў мы спасцігаем духоўны свет іх стваральнікаў. Калі гучаць гэтыя старажытныя песняспевы, здаецца, што душа адлятае ў Горні Свет. Глыбокі малітоўны настрой узнікае пры выкананні царкоўных песняспеваў усімі хорамі і пацвярджае тую ісціну, што царкоўнае спяванне ёсць багаслоўе ў гуках.

Калісьці богаслужбовыя спевы былі падобныя да сімфоніі па яркасці, шматвобразнасці, форме, мелі складаную музычную мову. Сёння яны спрасціліся. Даўно былі перарваныя традыцыі рэгенцкага і пеўчага мастацтва...

Сёння мы гаворым пра адраджэнне царкоўнага пеўчага мастацтва, але больш дакладна было б сказаць пра нараджэнне яго. Таму што сёння аднавіць, адрадзіць тое спяванне, якім маліліся нашы продкі, немагчыма. Калі ікону можна ачысціць ад сучасных напластаванняў і ўбачыць тое, што было закрыта і лічылася страчаным, то самыя сапраўдныя літургічныя спевы мы ўжо не зможам пачуць ні пры якіх абставінах. Богаслужэбная музычна-пеўчая культура праваслаўнай царквы, яе знаменная натацыя мела на ўвазе пэўны духоўны ўзровень таго, хто спявае, а таксама таго, хто слухае. Гэтак жа, як мы захапляемся помнікамі старажытнай архітэктуры, яе таямніцамі і загадкамі, мы маглі б захапляцца, калі б пачулі спевы ў старажытных праваслаўных храмах паводле выпрацаваных у старажытнасці найскладаных музычных сістэм.

Сёння ж адбываюцца дзівосныя рэчы. Таму, хто, імкнучыся да духоўнага ўзрастання, спявае тыя старажытныя знаменныя распевы, нават расшыфраваныя і запісаныя пры дапамозе сучаснай натацыі, у сучасных ладах, — таму праз гэтыя напевы Святым Духам адкрываецца літургічная сутнасць богаслужэбнага спеву. Штосьці няўлоўнае змяняецца вакол, калі гучыць знаменны распеў.

З 30 верасня па 7 кастрычніка 2001 года пройдзе VI Міжнародны фестываль праваслаўных песняспеваў. Яго праграма мяркуе штодзённыя канцэрты ў залах сталічнай філармоніі, Нацыянальнага мастацкага музея, Белай зале Палаца культуры прафсаюзаў, ДМШ №10 імя Я.Глебава, у Беларускай акадэміі музыкі, Доме культуры інвалідаў, у вайсковых часцях, бальніцах і калоніях. Будзе конкурс харавых калектываў (упершыню конкурсныя выступленні адбудуцца ў Зімнім садзе мінскага Дома міласэрнасці). Госці фестывалю змогуць удзельнічаць у вечары духоўнай паэзіі, які пройдзе ў Нацыянальнай бібліятэцы, у пасяджэнні "круглага стала" па праблемах сучаснай праваслаўнай культуры, наведаць выставу мастацкай творчасці (у ДК "Камволь"). Канцэрты адкрыцця і закрыцця фестывалю будуць папярэднічаць канцэртамі гукаў званоў. Званы прагучаць на плошчы Якуба Коласа, проста на прыступках Белдзяржфілармоніі.

Удзельнічаюць у фестывалі харавыя калектывы Беларусі, Расіі, Францыі, салістка Нацыянальнага тэатра оперы Тамара Рэмез, самадзейныя і прафесійныя паэты, кампазітары, мастакі, керамісты, іканапісцы, мастацтвазнаўцы.

Мы спадзяёмся, што кожнае мерапрыемства фестывалю створыць атмасферу міру, любові, дабра. Гэта вельмі важна, таму што ў нашым сучасным свеце, дзе ідзе такі наступ зла — і ў духоўнай галіне, і ў галіне душэўнай, і ў галіне сямейнай, — так важна адчуць плячо бліжняга. Не толькі сваяка або сябра, а плячо брата па духу, адчуць бліжняга братам. Брат — гэта не толькі той, хто гаворыць з табой на адной мове, не толькі той, хто выхаваны з табой у адной культуры, але той, хто гэтак жа стаіць перад Хрыстом, як стаіш ты, бо і табе, і яму Гасподзь даў гэтае жыццё, гэты свет, каб ты яго ўпрыгожваў, узбагаціў, ствараў, але не разбураў.

Работа па арганізацыі фестывалю прыносіць велізарную радасць. Мы жадаем, каб ва ўсіх людзей, што ўдзельнічаюць у фестывалі — спяваюць, слухаюць, чытаюць вершы, абслугоўваюць фестываль, — было адчуванне яднання ў агульнай малітве і радасці стасункаў з Богам.

**Ларыса ГУСТАВА,**
**дырэктар Міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў**

# Бліснула, як маланка

## 95 год ТАМУ ВЫЙШЛА ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА "НАША ДОЛЯ"

12 жніўня 1906 года віленскі інжынер Іван Тукеркес атрымаў у канцылярыі губернатара пасведчанне за нумарам 11532 на правы выдання і рэдагавання штотыднёвай беларускай газеты "Наша доля". А яшчэ праз тыдзень у Пецярбург паляцела адносіна, дзе Галоўнаму ўпраўленню па справах друку паведамлялася, што новая газета мае намер закранаць на сваіх старонках пытанні ўрадавай палітыкі, жыцця вёскі і горада, друкаваць новыя творы беларускай літаратуры, пісаць пра "што чуваць" з Беларусі, Літвы і Расіі, змяшчаць інфармацыю з-за мяжы, парады "па сельскай гаспадарцы, практычнай медыцыне і прыкладной механіцы", а таксама — "што трэба і чаго не трэба чытаць"...

Газета мелася выходзіць "рускім і лацінскімі шрыфтамі ў друкарні Навіцкага". Падпісная плата на год з дастаўкай і перасылкаю — 3 рублі, кошт паасобніка — 5 капеек.

Першы нумар "першай беларускай газеты для вясковага і местачковага рабочага народу" выйшаў у свет у пятніцу 14 верасня 1906 года на васьмі старонках невялікага фармату (памерам з канцылярскі аркуш). Надрукавана была ў толькі што адчыненай "Арцелі друкарскай справы" — Вільня, рог Вялікай і Рудніцкай вуліц, дом Залкінда.

У праграмным артыкуле да чытача, напісаным ці Цёткаю, ці каторым з братоў Луцкевічаў, што бралі чынны ўдзел у выданні "Нашай долі", яны абвяшчалі: "Пісаць мы будзем для вёскі і будзем бараніць справы вясковых людзей. Лічачы найбольш нашым ворагам цямноту і беспраўнае палажэнне мужыка, мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым дзеля карысці сваёй вялікая выгада была трымаць васьмімільённы народ беларускі ў няволі і паняверцы, баламуціць і дурыць яго..."

Выхад першага нумара "Нашай долі" віталі шмат якія губернскія газеты і нават перадрукавалі некаторыя матэрыялы з яе. Інакш да гэтага аднесліся ўлады — назаўтра ж, у суботу, па загадзе віленскага генерал-губернатара Д.Любімава, нераспрададзеныя паасобнікі былі канфіскаваныя. Той жа лёс напаткаў і наступныя нумары "Нашай долі" — уключна да чацвёртага. І тут здарылася тое, што вартае асобнага даследавання — у рэдакцыі адбыўся раскол. Спадар Тукеркес настойваў працягваць выданне, нягледзячы на адміністрацыйныя перашкоды, браты ж Луцкевічы палічылі за лепшае не "брацца ў рожкі" з уладамі і заснавалі новую газету. Гэта была славутая "Наша ніва".

А.Тукеркес разам з А.Гедвілам здолелі выдаць яшчэ два нумары і "Наша доля" спыніла сваё існаванне. Пракурор судовай палаты ўгледзеў у яе дзейнасці "признаки преступного умысла". Суд вырак Тукеркесу год зняволення, але той паспеў з'ехаць да Парыжа...

І ўсё ж "Наша доля" была першай! У першым нумары яна змясціла славуты верш Якуба Коласа "Наш край" — гэта была **першая друкаваная публікацыя** будучага песняра. Тут жа друкаваліся апавяданні Цёткі і Ядвігіна Ш.

У першым нумары "Нашай нівы" было з сумам зазначана: "...першая газета "Наша доля" болей не жывець: яна была надта нядоўга, бліснула, як маланка, і згінула..."

Што не кажы, паказальны выпадак, які зрабіўся прыкраю звычкаю для ўсяе наступнае нашай нацыянальнай справы: пачынаць і кідаць, не дамогшыся свайго.

***...Край наш бедны, край наш родны!..***

**АГА**

ВЫСТАВЫ

# Згадваючы настаўніка ...

Выстава Сяргея Каткова і яго вучняў адкрылася ў Нацыянальнай мастацкай галерэі пры Саюзе мастакоў Беларусі. С.Каткова лічаць першым сваім настаўнікам многія вядомыя сёння мастакі. Сярод іх У.Стальмашонак, М.Данцыг, З.Літвінава, У.Хобатаў і многія іншыя. Яго студыя знаходзілася ў мінскім Палацы піянераў і школьнікаў. Сёння там таксама ёсць дзіцячая студыя, якая хацела б насіць імя першага яе настаўніка. Распавядаючы, што Сяргей Пятровіч меў талент захапляць дзяцей творчасцю, яго архіў захоўвае дзесяткі першых малюнкаў заслужаных сёння майстроў. Дачка мастака Святлана Каткова (таксама мастачка) даўно ўжо марыла наладзіць выставу бацькі і дадаць да яе творы вучняў; а магчыма, зрабіць музей дзіцячага малюнка, дзе знайшлося б месца і творам выдатнага настаўніка; надрукаваць асобным выданнем яго запісы, і гэта сапраўды магло б стаць цікавым раскрыццём сакрэтаў майстэрства і проста каштоўным аповедам пра некаторыя моманты тагачаснага мастацкага жыцця Мінска.



На выставе ў Нацыянальнай мастацкай галерэі можна пазнаёміцца з вялікай колькасцю работ С.Каткова. У асноўным — гэта пейзажы, прыцягальныя воку някідкасцю, але гарманічнасцю колеравай гамы, шчырасцю сапраўднага майстра. Побач размясціліся работы знакамітых вучняў. А ўсю астатнюю прастору занялі дзіцячыя малюнкі сённяшніх выхаванцаў мастацкай студыі Палаца моладзі. Узровень падрыхтоўкі ў студыі прыкметна высокі, дзіцячыя малюнкі адрозніваюцца валоданнем колерам, сур'ёзным поглядам на сусвет нават у самых маленькіх, шасці-, сямігадовых творцаў.

**Н.Ш.**

*Фота М. ПРУПАСА*

# "Preview" гарадскога каларыту

"Preview" — (прагляд) — так называецца фотавыстава Міхала Баразны, якой М-Галерэя Інстытута Гётэ распачала сваю працу ў новым сезоне. "Прагляд" — няспешная прагулка па праспекце Скарыны ад цырка да плошчы Перамогі і прагляд таго, што проста не прыкмячаеш у штодзённай мітусні. Да тэмы Мінска М.Баразна ў сваёй творчасці звяртаўся неаднаразова, горад ён здымае на працягу ўжо многіх год. Яго погляд спыняецца не на парадных фасадах, ён шукае "гарадскі каларыт", характэрны толькі для Мінска "вір фактураў і формаў". Многія вобразы на яго здымках пазнавальныя, але ўзятыя нечаканым ракурсам ці асобнай дэталлю, яны пакідаюць уражанне нерэальнасці.

Выстава "Preview" стала працягам экспазіцыі графічных твораў паводле п'есы "Пустых словаў не шкадуючы...", што была ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі ў 1999г. падчас правядзення выставы "chop-A-topos". У М-галерэі прадстаўлена серыя чорна-белых і каляровых здымкаў, дзе асноўным выяўленчым элементам горада сталі вялікія класічныя вазы на галоўным мінскім праспекце — такія характэрныя для горада, звыклыя нашаму воку і таму ў штодзённасці непрыкметныя.





Мінскія вазы М.Баразна пачаў здымаць яшчэ з 80-х гадоў, як, дарэчы, і многія іншыя свае праекты. Мастак называе сябе апошнім рэалістам. "Убачыў — сфатаграфаваў. Я не буду шукаць тое, чаго няма", — разважае Міхал у дачыненні да сваёй творчасці. Але кожны яго фотаздымак прымушае гледача задумацца, дзе гэта? А аказваецца — адкрыцці хаваюцца ў самых людных месцах, толькі нам, гледачам, не хапае мастакоўскай уважлівасці і фантазіі, каб прыкмециць і вылучыць іх сярод архітэктурна-будаўнічага рэльефу.

Міхал Баразна мае вучоную ступень кандыдата мастацтвазнаўства. Зараз працуе прарэктарам па навукова-творчай рабоце Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дацэнт. З'яўляецца членам савета Беларускага саюза дызайнераў і Музея сучаснага мастацтва, членам грамадскага аб'яднання "Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва". Ён аўтар шматлікіх публікацый па праблемах сучаснага выяўленчага мастацтва. Фотамастаком сябе ніколі не называе, хоць абараніў дыплом па фатаграфіцы пад кіраўніцтвам У.Цярэнцьева. Лічыць, што фотакамера зручны інструмент для тых, хто не мае часу на графічнае ўвасабленне сваіх ідэй. Свае выставы ён называе мастацтвазнаўчымі фотапраектамі, бо найпершую ролю іграе тут аўтарскі кантэкст.

**Н.Ш.**

*Фота М. ПРУПАСА*

ВАРУНКІ

# Музыкант мае мару

"У маім сэрцы на ўсё жыццё засталася цудоўная, нічым асабліва не выбітная вёсачка Скварцы, дзе я нарадзіўся і вырас, звілістая безназоўная рачулка, яблыневыя ды вішнёвыя сады з мілымі майму сэрцу буслянкамі, а галоўнае — тая непаўторная музычная атмасфера, якая панавала не толькі ў сям'і і наўкола, але, здавалася, і ў самой прыродзе. Бласлаўлёная гэтая вёсачка бачыцца мне цяпер, здалёк, на схіле гадоў, вялізным букетам квітнеючага вясновага саду — яна літаральна патанае ў квецені яблынь ды вішань, клёнаў ды ліп, напоўненая гудзеннем пчол ды птушыным гоманам..." Так пачынаюцца ўспаміны прафесара Расійскай Акадэміі музыкі імя Гнесіных Уладзіміра Хаменкі, урывак з якіх быў надрукаваны ў "ЛіМе" 28 жніўня 1998 г. пад загалоўкам "Музыка жыла ў самой прыродзе... (З удзячнасцю да Лукаша Калюгі).

Цалкам успаміны У.Хаменкі складаюць рукапіс невялікай кнігі — каля 10 друкаваных аркушаў. З настальгічнай сыноўняй любоўю да роднай Беларусі, са святой любоўю да музыкі, з пачуццём удзячнасці да людзей, якіх давялося спаткаць на жыццёвым шляху, узрушана і шчыра ўспамінае ён свае дзяцінства і юнацтва, гады навучання ў Мінскім музычным тэхнікуме (1933-1936), урокі М.Аладава і І.Салодчанкі, сваіх суседзяў па студэнцкім інтэрнаце А.Багатырова, У.Алоўнікава, Д.Жураўлёва, першую працу ў аркестры тэатра оперы і балета Беларусі.

У 1936 г. У. Хаменку прынялі ў Маскоўскую кансерваторыю, дзе яго настаўнікамі былі выдатныя музыканты прафесары А.Мілушкін, С.Казалупаў і інш. Пасля сканчэння кансерваторыі, з 1942 г. па 1960 г. ён працаваў салістам-канцэртмайстрам Вялікага сімфанічнага аркестра Усесаюзнага радыё і тэлебачання; з 1942 г. да сёння (маэстра споўнілася ўжо 86 гадоў!) ён з'яўляецца прафесарам Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Падрабязна і грунтоўна піша У.Хаменка пра гэтыя вельмі значныя і багатыя на падзеі гады вучобы і творчай працы, шчодра дзеліцца велізарным досведам музыканта-выканаўцы і педагога, "сакрэтамі" свайго выдатнага майстэрства.

Спецыяльныя раздзелы падрыхтаванай У.Хаменкам кнігі складаюць "Урокі С.М.Казалупава" (каля 3-х друкаваных аркушаў), успаміны пра дырыжораў М.Галаванава, К.Іванова, пісьменніка Юрыя Казакова, які вучыўся ў яго класе ў Гнесінскім вучылішчы (дарэчы, сярод вучняў У.Хаменкі — прафесары, заслужаныя артысты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў; вядомы беларускі кантрабасіст У.Федарчук таксама быў яго вучнем). Дакладна і падрабязна піша У.Хаменка пра рэпетыцыі і сумесныя выступленні з Л.Стакоўскім, пра свае творчыя адносіны з М.Растраповічам, успамінае адораных музыкантаў-аркестрантаў і вядомых педагогаў-гнесінцаў.

Змест успамінаў У.Хаменкі мне добра знаёмы, і я мяркую, што гэты багаты матэрыял зацікавіў бы многіх неабыякавых да мастацтва, да гісторыі музычнай культуры, чытачоў. Як у Расіі, так і ў Беларусі. Дарэчы, Уладзімір Уладзіміравіч марыць пра тое, каб яго кніга пабачыла свет менавіта на Радзіме.

**Тамара СУДНІК (КАЗАКОВА), кандыдат філалагічных навук, г.Масква**

*Ад рэдакцыі. Спадзяемся, што рукапісам У.Хаменкі зацікавяцца спецыялісты, выдаўцы, здатныя паспрыяць ажыццяўленню новага перспектыўнага праекта. Такая кніга знайшла б удзячных чытачоў сярод музыкантаў-педагогаў і студэнтаў, дый проста — сярод культурнага люду. Бо нават на публікацыю ўрыўка з яе ў "ЛіМе" У.Хаменка атрымаў нямала цёплых водгукаў ад мінчукоў. (Нумар тэлефона ёсць у рэдакцыі).*

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## Плеяда — па-беларуску

Плеяда — французская літаратурная школа, створаная ў XVI стагоддзі П'ерам дэ Рансарам і ягонымі аднадумцамі. Галоўны іхні маніфест — абарона і ўслаўленне роднай мовы, стварэнне на ёй высокамастацкіх твораў. Гэтая, моцнага гарту паэзія ды патрыятычная ідэя прывабілі нашу вядомую паэтку і перакладчыцу Ніну Мацяш. Плёнам яе карпатлівай працы стаў зборнік выбранай лірыкі Плеяды "Благаславі сустрэчу мне...".

Як зазначыла перакладчыца ў прадмове да кнігі, яна не імкнулася да акадэмічнасці выдання, а кіравалася асабістымі светапоглядными, эстэтычнымі і творчымі схільнасцямі. У зборніку вершы ажно 19 французскіх паэтаў: Рансара, Бэлё, Жадэля, Баіфа...

Зборнік густоўна аформлены брэсцкай мастачкай Настай Фяцісавай, выдадзены абласным цэнтрам падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Вежа".

**Сымон АКСЕНІН**

## Помнік земляку

Мікола Калянковіч нарадзіўся і вырас на Лунінеччыне, на беразе ракі Цна, у вёсачцы пад гэтай жа назвай. За сваё жыццё, а пражыў толькі сорак год, ён паспеў многае. Як краязнаўца і пісьменнік выдаў шэраг кніг. Бадай, самая знакамітая — "Палескія дні Аляксандра Блока". На Цнянскай школе, дзе вучыўся Калянковіч, усталявана мемарыяльная дошка ў гонар земляка. Ягонае імя носіць і адна з мясцовых вуліц. А днямі ў Лунінцы быў адкрыты помнік Міколу Калянковічу.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Мастак-авангардыст

У абласным цэнтры прайшлі юбілейныя выставы Аляксандра Салаўёва, які днямі адзначыў 75-годдзе. Шмат часу Салаўёў працаваў галоўным мастаком у Коласаўскім тэатры, плённа займаўся жывапісам. Яго авангарднае мастацтва не заўсёды падтрымлівалася чынавенствам ад культуры. Але гэта не засмучала ўпартага мастака. Ён выстаўляўся ў тэатры і называў свае работы тэатральным афармленнем. А Мінск забараняў іх паказваць.

— Калі б не было тэатра, не было б і мяне як мастака. Гэтае месца сталася адзіным, дзе дазвалялася эксперыментаваць, — гаворыць Аляксандр Аляксандравіч.

Юбіляр і зараз працягвае жывапісную працу. Піша па 15 работ у месяц. Яго натхняюць рэальны свет, гармонія прыроды.

## Свята на зямлі Буйніцкага

У Празароках, што на Глыбоччыне, у мінулыя выхадныя прайшло рэспубліканскае свята ў гонар 140-годдзя Ігната Буйніцкага — заснавальніка прафесійнага беларускага тэатра. Мясцовыя жыхары шчыра віталі артыстаў са сталіцы і Віцебска. Сярод гасцей-удзельнікаў — доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі, народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак, артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, Беларускага дзяржаўнага тэатра "Лялька", ансамблі "Бяседа" і "Талака".

**Святлана ГУК**

## Музей у Талачыне

У Талачыне адкрыўся гісторыка-краязнаўчы музей. Ён размясціўся ў адным са старажытных будынкаў раённага цэнтра. Музей асвяціў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. У мерапрыемствах па адкрыцці музея прымалі ўдзел пісьменнік А.Петрашкевіч, навукоўцы І.Хаўратовіч, Г.Штыхаў.



*На здымку: будынак Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

*Фота А.ШНЭЙДАРА*

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Адкрыўся сезон

Заслужаны калектыў Беларусі — Гомельскі абласны драмтэатр адкрыў чарговы, 63-ці сезон прэм'ерным спектаклем "Чорная панна Нясвіжа" па п'есе А.Дударава. Пастаноўка народнага артыста рэспублікі В.Раеўскага. У сёлетнім рэпертуары тэатральнага калектыву — больш за 20 спектакляў, у тым ліку і для дзяцей.

## Фестываль вулічнай культуры

У абласным цэнтры на набярэжнай Сожа пад шатамі гарадскога парку прайшоў незвычайны фестываль. У ім бралі ўдзел ветэраны вайны і працы, моладзь. Галоўная тэма гаворкі — правілы паводзін на вуліцы. Гучала і музыка на любы густ. Адбыўся конкурс малюнкаў на асфальце.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МІНШЧЫНА...*

## "Душы зямное прыцягненне"

Так называецца выстава карцін мастака Алеся Сушы, якая была ўрачыста адкрыта ў Чэрвеньскім раённым краязнаўчым музеі. Мастак — ураджэнец вёскі Дамавіцк Чэрвеньскага раёна. На ўрачыстасці з нагоды адкрыцця выставы прысутнічаў сам мастак, яго сябры, родныя, настаўнікі і вучні, госці. Вітала прысутных дырэктар музея Ганна Аўласенка. Сярод гасцей быў прэзідэнт Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб. Ён расказаў пра творчасць Алеся Сушы, які, дарэчы, з'яўляецца сябрам гэтай гільдыі. Выступілі сам мастак, а таксама пісьменнік Генадзь Аўласенка. У карцінах Сушы — канкрэтныя даступныя для кожнага вобразы. Пейзажы кранаюць сваёй душэўнасцю і праніклівасцю.

На малой радзіме мастака гэта першая ягоная выстава.

**Алена ЗАБАРОНАК**

## Кіева-Пячорскія абразы



**Досыць цікавая і культавая выстава мае адкрыцца на пачатку кастрычніка ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Сюды прывозяць старажытныя абразы 15-18 стагоддзяў з Украіны — з тамтэйшых Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка "Кіева-Пячорская лаўра" і з Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Украіны. Праект ажыццяўляецца з нагоды святкавання сёлета 950-годдзя з дня заснавання Кіева-Пячорскай лаўры. Гэтая дата вельмі шырока адзначалася нядаўна на Украіне. І вось украінцы вырашылі паказаць абразы сваім суседзям-беларусам. Хоць бы таму, што гэта таксама і спадчына Вялікага Княства Літоўскага, а значыць, і наша з вамі. Выстава абразоў з Кіева-Пячорскай лаўры адкрываецца 5 кастрычніка і працягнецца два месяцы.**

## Для музея Багушэвіча ў Літве

**Віленская філія Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны просіць дапамогі ў справе стварэння ў Літве Літаратурнага музея Францішка Багушэвіча. Па задуме музей мае размясціцца на радзіме гэтага беларускага паэта, у прыватнасці, у пакоях Савічунскай бібліятэкі, што ў Віленскім раёне. Віленская ТБМ звяртаецца да грамадскасці прысылаць на штаб-кватэру рэчы, што так ці інакш звязаныя з лёсам і творчасцю Ф.Багушэвіча і наогул з беларускай гісторыяй.**

## У гонар архітэктара

**Беларускім урадам прынята рашэнне аб ушанаванні памяці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі вядомага архітэктара Георгія Заборскага. Спіс пабудоваў, узведзеных, па яго праектах, будзе досыць вялікім. Дастаткова назваць такія: манумент на плошчы Перамогі ў Мінску, будынак педагагічнага інстытута, Суворaўскай вучэльні, музея Вялікай Айчыннай вайны, тэатра лялек. Сёлета на магіле архітэктара на Усходніх могілках будзе ўсталяваны помнік, на доме №6 на Нямізе з'явіцца мемарыяльная дошка ў гонар Г.Заборскага. Апрача таго, яго імем будзе названа адна з новых мінскіх вуліц.**
**К.П.**

## "Школа. Моладзь. Тэатр"

**Пад такой назвай прайшоў у мінулую пятніцу "круглы стол" у Мінскім абласным драматычным тэатры ў Маладзечне. Кіраўніцтва тэатра запрасіла да размовы загадчыкаў гарадскога і раённага аддзелаў адукацыі, культуры, дырэктараў школ, садкоў, прадпрыемстваў. Адбылася шчырая гутарка аб выхаванні моладзі, яе маральных арыенцірах, аб ролі тэатра ў выхаваўчым працэсе. Былі адзначаны немалыя поспехі маладзечанскага тэатра, гаварылася і пра недахопы, якія мелі месца ў працы творчага калектыву. А заўтра прэм'ерай спектакля "Вечар" па п'есе А.Дударава Мінскі абласны распачне свой чарговы тэатральны сезон. Ёсць спадзяванне, што зацікаўленая размова за "круглым сталом" дапаможа тэатру знайсці сваіх новых прыхільнікаў.**
**М.СЕРАФІМОВІЧ**

# Мікалай МАТУКОЎСКІ



22 верасня на семдзесят трэцім годзе пайшоў з жыцця выдатны беларускі пісьменнік Мікалай Ягоравіч Матукоўскі.

Нарадзіўся Мікалай Ягоравіч 12 кастрычніка 1929 года ў вёсцы Калюціна Расонскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Тродавіцкай сярэдняй школы ў 1950 годзе працаваў літсупрацоўнікам раённай газеты "Сацыялістычная праца". У 1956 годзе скончыў завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у газеце "Звязда", з 1960 па 1964 г. быў галоўным рэдактарам літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё. З 1964 па 1966 г. галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры. Потым была праца ў якасці загадчыка Беларускага аддзялення рэдакцыі газеты "Известия". Менавіта ў гэты час і раскрыўся талент М.Матукоўскага як пісьменніка... Пяру Мікалая Ягоравіча належаць такія выдатныя п'есы як "Мужчына, будзь мужчынам!" (1966 г.), "Амністыя" (1971 г.), "Наследны прынц" (1976 г.), "Мудрамер" (1987 г.) і іншыя. Па сцэнарыях Мікалая Матукоўскага пастаўлены мастацкія фільмы, якія склалі залаты фонд савецкага кіно. Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і шэрагу прафесійных прэмій. Актыўная грамадзянская пазіцыя, высокая прафесійная адказнасць, душэўная прыязнасць і любоў да людзей вызначалі Мікалая Ягоравіча Матукоўскага. Ён сапраўдны сын беларускага народа і светлая памяць аб ім назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# У першую чаргу для людзей...

Ягоныя п'есы ішлі ў тэатрах Беларусі і за яе межамі, ён меў шмат прыхільнікаў сваё драматургіі, што адлюстроўвала жыццё і служыла мастацтву.

Ён быў слынны журналіст, можа, самай прагрэсіўнай на той час газеты, дзе выступаў за інтарэсы Беларусі і яе грамадзян-беларусаў.

Яшчэ ён быў добры і надзейны сябра шмат якіх таксама добрых людзей, з якімі таксама імкнуўся жыць у ціхім і добрым сяброўстве. Ён быў дужа лёгкі на спачуванне і дапамогу, калі ў каго ўзнікала патрэба. А патрэбаў тады было шмат, не менш чым зараз, яны накочваліся валам. І людзі звярталіся з імі да Мікалая Ягоравіча — самага дзейснага з дапаможнікаў. Той заўжды думаў, спярша меркаваў: як, праз каго памагчы, пасля званіў. Хадзіў, пісаў, сядзеў у прыёмных саноўных бюракратаў, — каб памагчы. І памагаў. Калі не мог памагчы ні СП, ні ГАІ, ні партбюро, Матукоўскі памагаў. Ці выдаць кніжку, ці агораць кватэру, ці абараніць ад несправядлівасці. А то здабыць білет на самалёт ці проста падвезці куды, куды задорага было на таксоўцы. Матукоўскі не ведаў словаў адмовы, і ім карысталіся не толькі гнаныя, а часам злоўжывалі і прызнаныя. Першы рэабілітацыйны артыкул наконт маіх зацюканых твораў паявіўся менавіта за ягоным журналісцкім подпісам. Пасля пайшлі іншыя, можа, болей доказныя і глыбокія, але я назаўжды ўдзячны таму першаму, які даў аўтару першы глыток кіслароду справядлівасці.

Кепска, што, калі яму прыпадала трудна, калі ягоныя п'есы адвяргаліся мінкультам ці калегіямі, яму ніхто памагчы не мог. Не ўмеў, не хацеў? — тое цяжка сказаць. Але ўжо, мабыць, такі лёс кожнага праўдалюбца, які сам не менш за каго меў патрэбу ў праўдзе і справядлівасці.

Асабліва крыўдна, што яму не памагла медыцына, у якую ён беззапаветна верыў і на якую адно — спадзяваўся.

Хаця што ж... Мабыць, і тое, як мае быць. Менавіта такі па сутнасці горкі лёс наканаваны людзям, якія ў першую чаргу — для іншых і ў апошнюю — для сябе.

**Васіль БЫКАЎ**

# Ён з тых, каго не забываюць

Першы раз я сустрэўся з ім хлапчуком-шасцікласнікам. Быў ён танклявы, светлавалосы, з узвышана-рамантычным адкрытым тварам, высокім прыгожым ілбом і яснымі сінімі вачамі. Працаваў ён у райкаме камсамола і друкаваў вершы ў Расонскай раённай газеце. Для мяне ён стаў першым літаратурным настаўнікам і старэйшым братам — роднага брата ў мяне не было. І пайшлі мы з тых горкіх пасляваенных гадоў па жыцці разам — землякі, калегі, сябры.

Мікола Матукоўскі быў надзелены незвычайнымі чалавечымі якасцямі. Ён быў таленавіты ў сваёй рэдкай дабрыні, у сваёй бліскучай драматургічнай творчасці, у сваіх бунтоўных публіцыстычных выступленнях, у сваім верным сяброўстве. Ён быў надзіва цэльнай і мэтаімкнёнай натурай ва ўсім, што рабіў, чым турбаваўся. Ён быў абаяльны і вясёлы, засяроджаны і чулы... Усе залатыя россыпы, што былі ў ягонай шчодрай душы, ён да астатку аддаў іншым — сваім блізкім людзям, сваім чытачам і гледачам. Ён прайшоў па зямлі свой, на жаль, кароткі шлях з высока ўзнятай галавой і поўным святла і даверу чыстым паглядам, годна і прыгожа. Хто хоць аднойчы сутыкнуўся з ім, з ягоным разважлівым словам, з ягонай непаказной зацікаўленасцю, з ягонай непахіснай прынцыповасцю і сардэчнай спагаднасцю, ніколі не забудуць яго, паважанага нашага Мікалая Ягоравіча Матукоўскага, дарагога майго Міколу...

***Доўгія, шчаслівыя гады***
***Нас з табой вяла адна дарога...***
***Нечакана рвуцца правады***
***Да сяброў,***
***Якіх зусім нямнога.***

***Толькі ўчора голас твой гучаў,***
***І ўвесь дзень твой нумар быў заняты.***
***А сягоння —***
***Слёзы на вачах***
***І маўчаннем горкім вусны сцяты.***

***Што ж замоўк ты,***
***Родны чалавек,***
***І патухлі твае вочы сінія?***
***Раптам адключылася навек***
***Ад мяне***
***Твая святая лінія.***

***Ды і ў чорнай смерці на мяжы***
***Памяць ціхі голас твой захоўвае.***
***І са мной жыве***
***І будзе жыць***
***Сувязь наша вечная, духоўная.***

**Генадзь БУРАЎКІН**

# Плача душа

Кожны раз з трывогаю адгортваю 15-ю старонку нашага штотыднёвіка і з жахам бачу ў чорнай рамцы чарговую страту нашай літаратуры і культуры. Заходзіцца і плача душа. Гэта нейкі страшны год падмятае сумленнае і светлае на зямлі.

Учора ашаламіла страшная вестка: памёр Мікалай Ягоравіч Матукоўскі — светлы талент, заўсёды натхнёны мастак, чалавек чыстага сумлення, непарушнай прынцыповасці і смеласці. Сведчанне таму – яго палаючыя артыкулы, балючыя п'есы, кінасцэнарыі, тэлефільмы і перадачы, выступленні на сходах і пасяджэннях: узор сумлення, таленту і прынцыповасці.

Мікалая Ягоравіча я ведаў з 1956 года. З яго "звяздоўскага" перыяду. Такога добразычлівага, дасведчанага, патрабавальнага і ветлівага рэдактара не проста знайсці. **Гэта быў інтэлігент вышэйшага кшталту,** аздоба нашай культуры. Да яго вострых і сумленных артыкулаў у "Известиях" прыслухоўваўся свет.

Летась мы цэлы месяц з ім і чароўнай яго Людмілай Андрэеўнай прасядзелі за адным сталом у сталоўцы санаторыя "Гарадзішча". Кожная сустрэча, размова, нават кароткая гаворка былі сапраўдным святам душы.

Не верыцца ў заўчасную страту такога таленту, сумлення і абаяння. Плача душа. Вечная памяць чалавеку, таленту, сумленню, святому Мікалаю.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

*24.IX.2001 г.*




# Тут калісьці гучалі паланезы

На фоне чароўных пейзажаў бабінага лета не дужа закінутымі выглядалі гэтым сонечным днём будынкі старажытнай сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага, што ў Залессі Смаргонскага раёна. І нават занядбаны парк папрыгажэў напярэдадні дня нараджэння свайго славутага гаспадара, выдатнага грамадскага дзеяча і таленавітага кампазітара.

На 236-я ўгодкі Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессе, у так званыя Паўночныя Афіны, прыехалі шчырыя прыхільнікі творчасці маэстра, людзі неабыякавыя да культурна-гістарычных набыткаў нашага краю. Прыемна адзначыць, што сярод гэтых людзей быў і аташэ па культуры Пасольства ЗША ў Беларусі спадар Джон Куныштадтэр, які, дарэчы, выдатна размаўляў па-беларуску, у чарговы раз засведчыўшы гэтым паважлівыя адносіны да нашай краіны і нашага народа.

Як і 200 гадоў таму, калі да Агінскага наведваліся яго самыя шчырыя аднадумцы і прыхільнікі, у нашы дні сюды прыязджаюць сапраўдныя рупліўцы беларушчыны. Сярод гасцей былі пасол Беларусі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Счасны, спявак Віктар Скорабагатаў, дырэктар Маладзечанскага вучылішча мастацтваў імя М.Агінскага Рыгор Сарока, краязнаўца і даследчык гісторыі Віленскага краю Міхась Казлоўскі і інш.

Паблізу з палацам, на імправізаванай сцэне ля двухпавярховага млына, што быў пабудаваны яшчэ ў часы Міхала Клеафаса Агінскага, ладзілі імпрэзу смаргонскія, залесскія, віленскія, гарадзейскія і мінскія артысты-аматары. Першую дзею гэтага канцэрта можна смела назваць бенефісам музычнай студыі з Залесся "Альтанка" (кіраўнік Сяргей Верамейчык). Да самадзейных спевакоў далучыўся Віктар Скорабагатаў, які праспяваў акапэла адзін з рамансаў М.Агінскага.

Узрушана прымалі гледачы выступленне студэнцкага тэатра "Жывое слова" (Мінск) пад кіраўніцтвам Алены і Юрыя Чарэнкаў. Па словах Анжэлы Садко, удзельніцы тэатра і выкладчыцы фінансава-эканамічнага каледжа, "Жывое слова" часты госць на Смаргоншчыне, якая багата гістарычнымі мясцінамі.

Добра вядомы на Смаргоншчыне і беларускі бард Віктар Шалкевіч. Таму на гэты раз яго выступленне было актыўна падтрымана слухачамі, сярод якіх маладзечанскія скаўты, удзельнікі ансамбля "Гулянок" Смаргонскай школы мастацтваў і студэнцкі тэатр.

Свае віншаванні і песні прывезлі на Смаргоншчыну госці з беларускамоўнай школы ў Вільні, гурт "Старая Літва" з Гародні, школьнікі і настаўнікі з Ашмян, Маладзечна і іншых мясцін нашага краю.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**

# Пра час "Узвышша"

## ДА 75-ГОДДЗЯ ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ

У ГЭТЫМ ГОДЗЕ у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва прайшлі Першыя ўзвышаўскія чытанні, прымеркаваныя да 75-годдзя ўтварэння літаратурнага аб'яднання "Узвышша". Пра падзеі дня 26 мая 1926 г. нагадалі архівісты. Прагучалі радкі з пратакола пасяджэння цэнтральнага бюро "Маладняка", які зафіксаваў моманты абмеркавання заявы Я.Пушчы, А.Бабарэкі, К.Чорнага, К.Крапівы аб выхадзе са складу аб'яднання "Маладняк" і ліста аб дазволе стварыць новую літаратурную арганізацыю, пасланага ў ЦК КПБ. Найбольш акрэслена прычыну выхаду абгрунтаваў тады **Адам Бабарэка**:

" — Якое становішча ў "Маладняку"? 1) Сучаснае становішча — упадак творчасці. Аб гэтым сведчаць выпушчаныя зараз зборнікі, як, напрыклад, «У прасторы» — І. Барашкі. 2) Упадак цікавасці да грамадскасці. 3) Захапленне багемаю. 4) Ня выконваюцца пастановы філіямі; шчагалянне фразамі; вузасць кругагляду, поўны занапад і застой; агульнасць настрояў у творчасці. «Маладняк» пачаў даваць літаратурныя прысмакі, але не мастацкія каштоўнасьці, якія патрэбны пралетарыяту. Патрэбна мастацтва, якое б пашырыла кругагляд пралетарыята, селяніна, якое б адчыніла іх вачам псіхалогію другіх людзей — творчасць Кузьмы Чорнага гаворыць аб апошнім. Зарэцкі ў сваёй творчасьці паказвае слабых і моцных людзей — адны гінуць, другія перамагаюць. Пушча дае рамантыку і рэальнасьць жыцьця. Трус — сваёй музычнасьцю гаворыць аб вялікім у сьвеце. Крапіва — у сваіх творах паказвае, што ўсё, што ў нас ёсьць, сорам людзям паказаць; адбівае нашу мізэрнасьць. Моладзь — адыходзіць у творчасьці ад Багдановіча, Купалы, Дубоўкі, імкнецца даць нешта вялікае. Упадак настрояў моладзі, але яе трэба ўзьняць для ўтварэння беларускай культуры".

Пасля да ўдзельнікаў чытанняў "звярнуўся" **Максім Лужанін**. Яго чысты і ўсхваляваны голас гучаў у аўдыёзапісе.

" — Паважаныя сябры! Вельмі шкадую, што не магу разам з вамі гаварыць пра адзін з галоўных перыядаў літаратурнага жыцця ў Беларусі, пра час "Узвышша" — аб'яднанне і яго часопіс. Быў я сябрам аб'яднання і аўтарам часопіса ад пачатку да канца. Пішу, як успамянецца.

"Узвышша" было сапраўды творчай арганізацыяй, людзі з талентам у няспыннай творчай рабоце. Што, скажам, ведаў я пра такую работу? Меў вучнёўскі сшытак, куды паспешліва запісваліся радкі, якія перабельваліся толькі раз, для друку. А Уладзімір Дубоўка паказаў мне ў Маскве 12 варыянтаў аднаго з сваіх санетаў. А ў Кузьмы Чорнага я ўбачыў дзесятак папак з неаднойчы перабеленымі рукапісамі.

Фактычна, матэрыялы часопіса рэдагавала ўсё аб'яднанне, кожны рукапіс чыталі амаль усе сябры, улічваліся ўсе заўвагі, правілася кожная старонка. Помню Змітрака Бядулю, які перад друкаваннем свайго "Салаўя" — на кватэры Адама Бабарэкі — ён быў душа аб'яднання і часопіса — выслухаў шмат дакораў ды яшчэ ў прысутнасці маладзейшых узвышаўцаў. Бядуля спрачаўся, нерваваўся, але амаль усё паправіў. Не кажу пра прозу і вершы маладых паводле ўзросту сябраў. Як Сяргей Дарожны, Пятро Глебка, я. Мы цярпелі выбракоўку нашых работ, а прынятае да друку правілі і перапісвалі дома.

Праца такая ішла ў Бабарэкі, да каго мы хадзілі "гуляць", па-вясковаму кажучы, гэта значыць: зайсці да суседа ўвечар пагаварыць, прабавіць час у гамонцы. "Гулялі" яшчэ і ў Чорнага ў рэдакцыі газеты "Беларуская вёска", там было заўсёды поўна людзей, прыходзілі паслухаць Чорнага і атрымаць рублі тры авансу пад будучы твор.

Ні за арганізацыю, ні за рэдактарскую работу аплаты ніхто не меў: ні старшыня, ён жа афіцыйны рэдактар, ні нават скарбнік - Кандрат Крапіва. На часопіс прыпадала адна стаўка — тэхнічнага сакратара, яе дзялілі папалам Глебка і я, і мелі адзін стол у Доме пісьменніка.

Сходы праводзілі адзін раз на год, у гадавіну смерці Максіма Багдановіча, потым наладжвалі сціплую вячэру дзенебудзь у прастарнейшай кватэры / Бабарэка, Крапіва/.

Які быў тыраж часопіса? Не меш за тры тысячы, дакладна не скажу. Мы мелі пазаштатных распаўсюджвальнікаў, яны працавалі за пэўны процант ад сумы падпіскі.

Як стваралася аб'яднанне? Перш з "Маладняка" выйшлі Дубоўка, Бабарэка, Пушча, Чорны, потым далучыліся Бядуля і Васіль Шашалевіч. Зачаўшы такую справу, падпісалі заяву аб выхадзе Глебка, Дарожны, Трус /пазней подпіс зняў, запалохалі/, а таксама я.

Помню сход мінскай філіі "Маладняка". Спачатку прачыталі заяву чатырох старэйшых, пад канец — нашу. Міхась Зарэцкі нявесела пажартаваў: "Што ж, да ведама". Стала сумна: і тым, хто падпісаў заяву, і ўсім удзельнікам сходу. Моўчкі пакінулі залю і так дайшлі, разам усе, да Пляца Волі. Аднак дружба не скончылася: узвышаўцы сябравалі з маладнякоўцамі, збіраліся разам /часцей у Тодара Кляшторнага/, ездзілі брыгадамі выступаць з чытаннем твораў у абласцях. Аднак на дыспутах і ў друку выступалі адны супраць другіх. "Узвышша" лаялі за так званы нацыянал-дэмакратызм і адхіленні ад "пралетарскай ідэалогіі". Падставы для гэтага калі і былі, дык нязначныя, ішла вострая арганізацыйная барацьба, лідэры "Маладняка" і БелАППа не хацелі бачыць творчай перавагі. Зараз смешна ўспамінаць пра гэта. Асабліва пра тое, як адмаўлялася работа такіх майстроў слова, як два Уладзіміры — Жылка і Дубоўка. На апошняга, літаральна, малілася ўся паэтычная моладзь, гэта быў буйны талент, асвечаны чалавек.

Выразна паўстаюць перад вачыма ўсе ўзвышаўскія сябры: тыя, што загінулі падчас рэпрэсій /Мрый, Кляшторны, Калюга/, і тыя, каму турма і высылкі ўкарацілі жыццё /Пушча, Дубоўка/.

Жальбы па страчаных і па страчаным не выкажаш словамі. Будзем спадзявацца, што творы намнога перажывуць сваіх нешчаслівых стваральнікаў".

З дакладам "Узвышша": маральна-этычныя і творча-мастацкія ўрокі літаратурнай дзейнасці" выступіў **М.Мушынскі**. Ён сцвердзіў, што "Узвышша" — фенаменальная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры наогул. Ужо сама назва сведчыць аб бясспрэчнай прадукцыйнасці праграмы, якую выпрацавалі сябры "Узвышша". Гэта — няспынны творчы пошук, прага духоўнай вышыні, творчае засваенне багацця фальклору і традыцый сусветнай класікі, у тым ліку нацыянальнай, паслядоўная барацьба за высокі эстэтычны ўзровень літаратуры, глыбокае пачуццё асабістай адказнасці за друкаванае і прамоўленае слова. На літаратуру ўзвышаўцы глядзелі як на самаахвярнае служэнне Бацькаўшчыне, служэнне праўдзе, справядлівасці, і многае зрабілі ў справе нацыянальнага адраджэння. Пафасам абароны чалавека, агульначалавечых каштоўнасцяў, беларускай нацыянальнай ідэі прасякнута ўся дзейнасць узвышаўцаў. Здрада таленту ўспрымалася імі як смяротны грэх. Гісторыя пацвердзіла жыццёвасць эстэтычных установак аб'яднання: шэраг твораў, надрукаваных у часопісе "Узвышша", увайшоў у залаты фонд беларускага прыгожага пісьменства. "Узвышша" — адзіная ў дваццатых гадах суполка, у якой літаратурна-крытычная дзейнасць ураўнаважвалася з уласна мастацкай. Маральна-этычныя і літаратурна-творчыя ўрокі "Узвышша" маюць непераходную каштоўнасць, шкада, што яны, урокі, у наш час не асэнсоўваюцца належным чынам.

У дакладзе "Узвышэнства і аквітызм у кантэксце хрысціянскай цывілізацыі" **У. Конан** даказаў, што ўзвышэнства, як эстэтычная ідэя і мастацкая творчасць, узнікла ў эпоху нашаніўскага адраджэння. Яно было акцэнтавана В.Ластоўскім і ягонымі апанентамі ў вядомай літаратурнай дыскусіі 1913 г. на старонках "Нашай Нівы". Сутнасць ідэі: пераход беларускай літаратуры, і шырэй — мастацкай культуры, з рэгіянальнага на сусветны ўзровень. Панацце аквітызму (agva vita — жывая вада) было дамінантай у эстэтыцы ўзвышэнства. Яно сфармулявана А.Бабарэкам, Я.Пушчам, У.Дубоўкам яшчэ ў маі 1923 г. Аб гэтым сведчыць прадмова Я.Пушчы да зборніка вершаў "Vita паэзіі". Такім чынам, ідэя ўзвышэнства і аквітызму ўзнікла раней "Маладняка", створанага ў лістападзе 1923 г. Узвышэнства было найбольш таленавітай плынню ў рэчышчы "Маладняка" і аформілася ў самастойны літаратурна-мастацкі кірунак пасля ўтварэння "Узвышша".

Пра "Паэтыку ўзвышаўскага аквітызму" гаварыла і **І. Багдановіч**: эстэтычная канцэпцыя "Узвышша" мела ўмоўную назву, паводле тэрміналогіі



*У першым радзе злева направа: Я.Пушча, А.Бабарэка, У.Дубоўка, К.Чорны, З.Бядуля, К.Крапіва; у другім радзе: М.Лужанін, С.Дарожны, С.Адамовіч, Т.Кляшторны, У.Жылка, В.Шашалевіч, П.Глебка. 1927*

*З архіва А.Бабарэкі. Публікуецца ўпершыню*

самiх узвышэнцаў, - "аквітызм", які быў у пэўным сэнсе працягам "паэзіі красы" М.Багдановіча: не ў фармальным сэнсе пошуку адмысловых выяўленчых дэталяў, а ў глыбінным сэнсе разумення красы як мастацкага ідэалу. Паэтыка ўзвышаўскага аквітызму сапраўды ў істоце сваёй вяртала мастацкі твор ад "жыцця матора" ў сферу пачуццяў і рэфлексіі, што ў канцы 20-х гадоў з'яўлялася не проста смелым грамадзянскім крокам літаратараў, У.Дубоўкі, А.Бабарэкі і іх паплечнікаў, але было і выклікам афіцыйнаму курсу на палітызацыю мастацтва і прывязкі яго да надзённых праблем сацыялістычнага будаўніцтва. У гэтым была сутнасць аквітызму, як тэарэтычнай канцэпцыі "Узвышша", якая звязвала яго з хрысціянскім светаадчуваннем, ад чаго адмовіўся ў свой час рэвалюцыйны палітычны авангард.

Пра цікавую сустрэчу з адным з чытачоў "Узвышша" расказала **А.Гесь**: калі мой сусед даведаўся, што я іду на канферэнцыю, прысвечаную 75-м угодкам "Узвышша", ён працытаваў верш:

***Эх, і чортаў жа настрой!***
***Не ляжыцца, не сядзіцца,***
***Уеццa думак цэлы рой, -***
***Мае нешта нарадзіцца.***
***Ды ніяк іх не сабраць —***
***Разьбягаюцца дый годзе,***
***Мусіць ноччу не з дабра***
***На дварэ хаджу, бы злодзей.***

Я ад здзіўлення не магла вымавіць і слова. А сусед расказаў наступнае: "Гэта верш з часопіса "Узвышша". Помню яго з дзяцінства. Бацька, селянін з хутара Караваева, што на Ігуменшчыне, Шлопак Цімафей, прывёз часопіс з Мінска. Дома ж было чацвёра дзяцей. Малодшы, Расціслаў, якому сёлета споўніцца 80 гадоў, запомніў верш з тых далёкіх 20-х гадоў. Праўда, яму здавалася, што гэта быў адзін з першых нумароў "Узвышша", які стаў выдавацца з 1927 г. Сусед для арыенціра паўтарыў некалькі разоў слова "Шкірута". У бібліятэцы заказала часопіс і перачытала ўвесь гадавік за 1927 год, але верш не знаходзіўся. Узяўшыся за 1928, адразу ж у першым нумары выявіла нарэшце. Гэта была паэма К.Крапівы "Шкірута".

Вось якім быў селянін, і якімі былі яго адносіны да друкаванага слова, да роднай мовы. Спрабую ўявіць сённяшняга калгасніка, бацьку дзяцей-школьнікаў, з літаратурным часопісам — і не магу. І ў той жа час ганаруся тым беларусам-ігуменцам, якія цаняць беларускую кніжку.

**І.Чыгрын** адзначыў, што стварэнне "Узвышша" было прадыктавана натуральнымі патрэбамі развіцця беларускай літаратуры, па прыкладзе творчасці ўзвышаўскіх празаікаў (Кузьма Чорны, Андрэй Мрый, Лукаш Калюга) паказаў, якіх мастацкіх поспехаў яна дасягнула, і галоўнае, якой нялёгкай гэта было для яе задачай. Беларуская літаратура даганашаніўскай пары ў жанры прозы мастацкіх набыткаў яшчэ не мела, таму кожнаму, хто браўся за пяро, каб тварыць прозу, даводзілася ў літаральным сэнсе пачынаць з нуля, адкрываючы пры тым (гутарка ідзе пра самых значных мастакоў слова; былі асуджаны на гэта) ледзь не цэлыя напрамкі ў яе станаўленні. Выпала гэта на долю і празаікаў "Узвышша". У выніку для паўнакроўнага здзяйснення беларускім пісьменнікам таго часу не толькі было патрэбна засвоіць мастацкі вопыт сусветнай класікі, але і ўзнімацца над ім, сваё ствараць не меншай значнасці, г.зн. уключацца ў працэс паскоранага развіцця літаратуры. Цяжкасці былі надзвычай важкія. Не было падрыхтаванага чытача, у нас тады цалкам адсутнічала нават першапачатковая школа на беларускай мове. Вучыцца тварыць беларускую прозу можна было ў фальклоры. Але фальклор мастацтва спецыфічнае - вуснае, калектыўнае, таму не ва ўсім магло быць узорам для індывідуальных творцаў, якімі з'яўляліся пісьменнікі, для літаратуры пісьмовай, друкаванай. Не ва ўсім яны маглі таксама следаваць мастацкаму вопыту сусветнай класікі, бо беларускія пісьменнікі ўзяліся ствараць беларускае мастацтва. Растлумачыўшы гэта, І.Чыгрын звярнуў увагу аўдыторыі на тры хвалі мастацкага пасціжэння рэчаіснасці ў станаўленні беларускай прозы на раннім этапе — хваля дакастрычніцкага часу (Ядвігін Ш., Якуб Колас, Змітрок Бядуля, М.Гарэцкі) і дзве паслякастрычніцкага — маладнякоўцы (Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот і інш.) і трэцяя — узвышаўцы, сярод якіх асабліва поспехаў у творчым плане дамагліся Кузьма Чорны, Лукаш Калюга і Андрэй Мрый, пісьменнікі ад Бога, як падкрэсліў выступоўца; яны не толькі сталі аўтарамі лепшых твораў ва ўсёй беларускай прозе даваеннага часу, але і абазначылі адпаведна, што было вельмі важна, цэлыя напрамкі ў яе развіцці — філасофскі (раман "Сястра"), падкрэслена эпічнай прозы ("Нядоля Заблоцкіх", "Ні госць, ні гаспадар"), сатырычны ("Запіскі Самсона Самасуя"). Творчы подзвіг празаікаў "Узвышша", іх напор у працы можна параўнаць хіба з учынкам людзей, якія па прычыне вялікай неабходнасці ўзяліся ўскаціць на гару камень-валун, які кожную хвіліну мог вырвацца з-пад рук і не толькі сам скаціцца ўніз, але і пацягнуць за сабой падобных рамантыкаў, перад тым разда-

*(Заканчэнне на стар. 12)*

ПРОЗА

# Туман

АПАВЯДАННЕ

Сцяпан СЯРГЕЙ



Тая далёкая восень шэсцьдзесят сёмага ўрэзалася ў маю памяць — памяць чатырнаццацігадовага падлетка — страшнай трагедыяй, якая ўскалыхнула не толькі спакойнае, аднастайнае жыццё нашай вёскі, але і маю, яшчэ дзіцячую душу адчуваннем чорнай непапраўнай бяды, халодным подыхам смерці.

У чатырнаццаць гадоў, калі ў цябе ёсць бацька і маці, старэйшы брат і ўтульны, сагрэты цяплом сэрцаў блізкіх людзей дом, жыццё здаецца бясконцым і вечным. І хай не заўсёды ўсё бясхмарна і шчасліва складаецца ў тваёй сям'і і ў цябе самога, усё ж найлепшае лякарства ад усіх непрыемнасцяў і бедаў — любоў і клопат аб табе тваіх родных людзей і, вядома ж, твой шчаслівы ўзрост. Узрост, у якім ты пачынаеш ужо асэнсоўваць жыццё, марыць аб будучым, якое здаецца табе такім цудоўным і рамантычным. У тваім сэрцы ўжо прачынаюцца першыя пачуцці да дзяўчынкі, якая жыве на адной з табой вуліцы, і калі ты сустракаеш яе раніцою па дарозе ў школу — дзень святлее ад яе ўсмешкі і прыветлівага позірку.

Цябе яшчэ не мучаць адвечныя праклятыя пытанні, на якія няма адказу, а крыўда і несправядлівасць, з якімі ты ўжо сутыкаешся ў гэтым жыцці, не пакідаюць на тваім сэрцы незалечных ранаў. Ты ўжо ведаеш, што на свеце ёсць смерць і што рана ці позна яна прыходзіць да кожнага. Але пакуль усе твае родныя і блізкія людзі жывыя і здаровыя, смерць для цябе — штосьці прывіднае і абстрактнае. Вядома ж, як і ў кожнай жывой істоце, у табе закладзены інстынктыўны страх перад смерцю, нездарма самае непрыемнае і страшнае месца для цябе ў вёсцы — могілкі, але ў тваім узросце такая моцная і здаровая прага жыцця, што нават сырая восеньская непагадзь не здольна патушыць у гарачым маладым сэрцы радасць існавання, радасць далучанасці і прыналежнасці да вялікага, цудоўнага свету.

Халады запозніваліся. Закончыўся дажджлівы кастрычнік, надышоў лістапад, а хмурныя кароткія дні стаялі не па-асенняму цёплыя. Неба было зацягнута нізкімі шэрымі хмарамі, з якіх часам церусіў дробны, як прасеяны праз сіта, дожджык. На ўзмежках і ў садах пад ужо голымі дрэвамі прасвечвалася праз апалае лісце вільготная зелень восеньскай атавы. У апусцелых палях тлуста чарнела пад дажджом ралля і кусціста буяла азімае жыта, якое як магнітам прыцягвала з пачарнелага, нішчымнага выгана кароў. І як толькі пастухі на хвілінку адварочваліся ад статка, затульваючыся ад дажджу, самыя нецярплівыя і нахабныя каровы, падняўшы галовы, порстка кіраваліся да заманлівай зеляніны, а за імі і ўся чарада, каб паспець хоць колькі разоў ухапіць сакавітай, салодкай руні.

Бліжэй да вечара над зямлёй уставаў, расплываўся спачатку па нізкіх месцах — над рэчкай і лугам, а затым забіраў пад свае зябкія белыя крылы ўсё наваколле туман. Яшчэ колькі часу над паласой туману быў відзён высокі комін цагельні, якая знаходзілася ў якім-небудзь кіламетры за вёскай, а потым і ён губляўся, раствараўся ў гэтай непрагляднай белізне. Нейкі трывожны, напружаны спакой агортваў прыціхлую зямлю. І хоць стаяла нязвыклае для гэтага часу цяпло, усё ж адчувалася, што на свеце глыбокая позняя восень. Прырода і людзі чакалі перамен.

Ужо хацелася першых замаразкаў, калі раніцою выбягаеш з хаты і пад нагамі на лужах патрэсквае лядок і шаргаціць, асыпаецца з пасівелай травы іней. Над дахамі ў блакітнае, без адзінай хмурынкі неба падымаюцца белыя слупочкі дыму. Паветра, прасвечанае першымі промнямі сонца, празрыстае і халоднае. І так здорава пасля хатняга цяпла дыхаць на ўсе грудзі гэтым чыстым холадам, адчуваючы, як прачынаецца і бадзёрыцца тваё цела і кружыцца ад ранішняй свежасці галава!.. Гэта ўсё хутка будзе. Будуць маразы і першы снег выбеліць свет. І яшчэ надакучыць завеямі і траскучымі маразамі доўгая зіма...

А пакуль на дворы сыры туманны лістапад. Вечарэе. Праз густы туман цьмяна прасвечваюцца электрычным святлом вокны вясковых хат. Дзесьці на рэчцы крычаць устрывожаныя чымсьці гусі. Па вуліцы, месячы капытамі чорную, клейкую гразь, ідуць з пашы каровы. За статкам, пагойдваючыся на калдобінах, паўзе трактар з навешанай ззаду бульбакапалкай. Пакуль не ўдарылі маразы, у калгасе перакопваюць бульбянішча — збіраюць і адвозяць на ферму бульбу, якой так многа вытрасаецца з сырой зямлі, асабліва на тых палетках, дзе яе выбіралі школьнікі і прыезджыя студэнты.

Кароткі восеньскі дзень закончыўся. Непраглядны туманны вечар ахінуў зямлю густою цемраю, і нейк вусцішна рабілася на душы, калі даводзілася выходзіць за парог у гэтую золкую чарнату. Вёска сцішылася. Не рыпелі калаўроты калодзежаў, не бразгалі вёдры, — толькі чуваць было, як дзесьці на другім канцы сяла брахаў чыйсьці сабака, а за вёскай ці то на дарозе, ці то ў полі гудзеў трактар...

Каб не цягнуцца на першай перадачы за каровамі, якія занялі ўсю нешырокую вясковую вуліцу, Мікола вырашыў крыху пачакаць і прытармазіў насупраць хаты свайго сябра Лёнькі.

Мікола ў гэтым годзе адслужыў у войску і вярнуўся ў вёску да маці, у сваю невялікую, старую хату на ўскрайку вёскі. Над пачарнелым гонтавым дахам вясной і спякотным летам густой, зялёнай лістотай шумела высокая старая бяроза. Бывала, пасля адбою, калі Міколава сэрца сціскала настальгічная туга па радзіме, ён заплюшчваў вочы і ці то мроілася стомленаму салдату наяве, ці мо ўжо снілася родная бяроза, засыпаны жоўтым лісцем двор, сад, у якім пад халодным вераснёўскім сонцам залаціліся сакавітыя антонаўкі. Хто пасадзіў бярозу, ніхто не мог прыпомніць, а вось сад, які радаваў Міколу і яго маці амаль кожную восень багатым ураджаем буйных, сакавітых яблыкаў і груш, пасадзіў пасля вайны бацька. Бацьку Мікола памятае слаба. Яму было ўсяго шэсць, калі той памёр ад страшнай, невылечнай хваробы. Маці, застаўшыся ў няпоўныя трыццаць гадоў удавою, узваліла на свае плечы і мужчынскую працу. Трэба было трымаць гаспадарку: і кароўку, і свіней — іначай было не пражыць у тыя нялёгкія пяцідзесятыя, ды і шасцідзесятыя гады, калі ў калгасе даводзілася працаваць за пустыя працадні, ці, як тады нявесела жартавалі, — палачкі, якія выводзіў хімічным алоўкам у пакамечаным сінім сшытку брыгадзір.

Мікола, скончыўшы восем класаў, пайшоў вучыцца ў СПТВ, набыў прафесію механізатара і да арміі цэлы год працаваў у сваім жа калгасе на трактары. І цяпер, дэмабілізаваўшыся, ён зноў сеў за руль свайго "Беларуса". Маці радавалася, што сын застаўся дома, а не паехаў, як большасць вясковай моладзі, шукаць прывіднага шчасця ў горад. "Вось ажаню свайго Міколку, пабудуем новую хату і буду пры маладых няньчыць унукаў", — марыла немаладая, спрацаваная жанчына. Але ж, як кажуць, чалавек марыць, а Бог уладарыць. Нават матчына сэрца не прадчувала той страшнай бяды, прывід якой ужо хаваўся ў злавеснай непрагляднай шэрані восеньскага туману...

Пачуўшы тарахценне трактара, Лёнька адхінуў фіранку, глянуў у акно і, пазнаўшы сябра, выскачыў на вуліцу. Лёнька быў на два гады маладзейшы за Міколу, але ўжо быў жанаты і нават меў маленькую чатырохмесячную дачку.

"Малады ды ранні", — пасмейваліся ў вёсцы з зухаватага і крыху бесталковага Лёнькі. У свае васемнаццаць гадоў ён паспеў не толькі ажаніцца, але і пасядзець некалькі месяцаў за дробнае хуліганства. Жыў ён з жонкаю і маленькаю дачкою ў цешчы.

— Прывітанне, прымак! Як сям'я, дзеці?.. — Мікола адчыніў дзверцы кабіны, з усмешкай глядзеў на заспанага, ускудлачанага сябра.

— Ат!.. — махнуў той рукою. — Лепш не пытайся! Малая ўсю ноч пішчэла, спаць не давала. А днём сабраўся паспаць, дык дзе там! Цешча плеш праела — то зрабі, то схадзі, то прынясі...

— А ты як думаў? Сям'ёй абзавёўся і на печы ляжаць? Не, брат, так не бывае! Цешча ў цябе — жанчына сур'ёзная. Яна цябе перавыхавае, пакажа, дзе ракі зімуюць! — Мікола дастаў цыгарэты, закурыў сам, падаў пачак Лёньку.

Той з асалодай зацягнуўся, глянуў падабрэлымі вачыма на Міколу:

— Слухай, падкінь да крамы. Мне тут жонка заданне дала — малой сёе-тое купіць, ды і цыгарэты скончыліся...

— Няма праблем! Лезь у кабіну ды мацней трымайся, а то наб'еш гуз на такой дарозе...

На ганку крамы яны сустрэлі ўжо крыху нападпітку Генадзя Гуліцкага. Вясёлы, прыгожы халасцяк, душа любой кампаніі, ён за свае дваццаць сем гадоў змяніў не адну прафесію: быў і электрыкам, і паштальёнам, і будаўніком, і нават бібліятэкарам, толькі вось ні на адной рабоце доўга не затрымліваўся. І не таму, што ленаваўся працаваць ці канфліктаваў з начальствам — проста такі ўжо ў чалавека характар, непаседлівы і няўрымслівы. Яго маці, жанчына даволі адукаваная і інтэлігентная, хацела, каб яе адзіны сын, якога яна гэтак любіла і песціла, атрымаў вышэйшую адукацыю, стаў урачом ці інжынерам. Але Генадзь не надта налягаў на вучобу і, скончыўшы на пасрэдна школу, нават не спрабаваў кудысьці паступаць, застаўся дома з маці і васьмідзесяцігадовым дзедам Паўлам. Бацька яго, мясцовы актывіст, за польскім часам член КПЗБ, у чэрвені сорак першага пайшоў на ўсход з адступаючымі савецкімі войскамі ды так і згінуў дзесьці на той страшнай вайне.

Цяпер у маці, якая ў глыбіні душы перажывала, што не ўдалося даць сыну інтэлігентную прафесію, быў новы клопат — ажаніць Генадзя. Яна ўжо некалькі разоў далікатна заводзіла з ім гутарку на гэтую тэму, але сын адмахваўся: "Не хвалюйся, мама. Паспею я яшчэ гэты хамут на шыю надзець!" Вось так і дажыў Генадзь да дваццаці сямі гадоў вясёлым халасцяком і гулякам. І, па праўдзе сказаць, пакуль не збіраўся развітвацца са сваёй свабодай.

Сутыкнуўшыся на ганку з сябрукамі, ён узрадаваўся.

— Прывітанне працаўнікам палёў! Як так "другі ўкос", многа бульбы натрос? — зарыфмаваў на хаду Генадзь.

— Хапае! Гэтыя студэнты болей затапталі, чым выбралі. Лічы, па-новаму капаем, — Мікола махнуў рукой. — Ды Бог з ёй, бульбай!.. Скажы лепш, што там сёння ў Андрэя — "вермут" ці "яблычнае"? А то на вуліцы сыра, а на душы суха, як у той Сахары.

— Не хвалюйся. У Андрэя ёсць і "вермут", і "яблычнае", і нават "сталічная", падміргнуў хлопцам Генадзь.

— "Сталічную" хай п'юць у сталіцы! А нам "працаўнікам палёў", пойдзе і "пан вермутовіч".

Хлопцы хуценька скінуліся, узялі тры бутэлькі віна і тут жа ў магазіне выпілі, закусіўшы кількай у тамаце і плаўленымі сырочкамі. І адразу свет зрабіўся лагаднейшым, а жыццё не такім сумным і аднастайным.

Захмялелы Лёнька, забыўшыся на даручэнне жонкі, глядзеў на сяброў вільготнымі, шчаслівымі вачыма. Яму зараз здавалася, што на ўсім свеце няма людзей больш блізкіх і родных для яго, чым Мікола і Генадзь. Ён дастаў з кішэні апошнія рублі:

— Ну што, хлопцы, яшчэ па адной?!.

Падагрэтых хлопцаў угаворваць не трэба было. Яны дабавілі па рублю і ўзялі яшчэ тры бутэлькі "вермута".

Калі дапівалі апошнюю бутэльку, Мікола, раптам штосьці прыпамінаючы, спытаў:

— Слухай, Гена, сёння які дзень? Пятніца?..

— Здаецца, пятніца.

— Дык сёння ж у Дамашах вяселле, Надзька Прыборава замуж ідзе, — Мікола хітравата глянуў на Генадзя, які падчэпліваў сцізорыкам з бляшанкі дробную рыбінку. — Ты з ёю, здаецца, круціў "шуры-муры"? Га, Гена?..

— Штосьці ты занадта многа ведаеш! — Генадзь засмяяўся, памахаў пальцам перад носам сябра.

— Ды я гэта таму... Вечар вялікі, а Дамашы вунь, побач, дзве вярсты не будзе. І таксі пад вакном, — Мікола кіўнуў галавой на свой заляпаны граззю "Беларус". — Паедзем, павіншуем тваю "хрэсніцу"? Глядзіш, і па сто грам нальюць, і пагуляем.

— А што?!. Нядрэнная ідэя! — загарэўся Генадзь. — Паехалі!

— Ну а ты, Лёня? Ці да сваіх баб? — Мікола паляпаў па плечуку ўжо добра ачмурэлага сябра.

— З вамі, хлопцы, з вамі! Мне зараз да сваіх нельга — загрызуць...

— Будзеш ведаць, як з маладых гадоў у прымы падавацца! — засмяяўся Генадзь. — Што, Мікола, выратуем хлопца?..

Той, падыходзячы да свайго трактара, заспяваў:

***І ты прымак, і я прымак,***
***Наша доля злая —***
***Кулачэнькі пад бачэнькі —***
***Так спаці лягаем***

— Паехалі, Лёня, пабудзь з намі вольным казаком хоць адзін вечар.

Хлопцы сяк-так уціснуліся ў кабіну трактара, Мікола ўключыў перадачу і націснуў на газ.

Дарога праглядвалася ўсяго на два-тры метры перад коламі, а далей святло фар упіралася ў густы туман, як у шэрую бетонную сцяну.

— Надвор'е не лётнае, — зазначыў Генадзь. — Глядзі, не збіся з дарогі.

— Гэ! Ды я на памяць ведаю, з завязанымі вачыма даеду! Мікола весела ціснуў на педаль газу, трактар, распырскваючы лужы, імчаў па каляіністай і выбоістай дарозе.

Усё ж яны празявалі паварот на Дамашы і з'ехалі на палявую, ледзь прыкметную дарогу. Але хутка згубілі і яе, апынуўшыся на незааранымі іржышчы. Поле было роўнае і ехаць па ім было нават лепш, чым па калдобістай дарозе.

— Ну і куды ты нас завёз? — Генадзь штурхануў локцем Міколу. — Давай, паварочвай назад!

— Не хвалюйся! Я гэтае поле ведаю. Зараз возьмем крыху лявей і выедзем на дарогу.

Мікола напружана ўглядаўся ў цемру. Раптам ён рэзка затармазіў, трактар капотам ткнуўся ў штосьці мяккае і светлае. Лёнька хіснуўся рэзка ўперад, балюча ўдарыўся лбом у ветравое шкло.

— Ты што, абарзеў?!. Глядзі, куды едзеш!

Мікола засмяяўся:

— Зрабілі мяккую пасадку — проста ў стог саломы. Можаце размяцца і схадзіць да ветру.

Ён здаў крыху назад, вылез з кабіны, агледзеў капот, фары:

— Усё ў парадку! Танк, а не трактар!

Генадзь пакруціў галавою:

— Гэта добра, што ў стог. А каб у слуп ці ў дрэва?

— Адкуль на полі дрэвы? Ты што, Гена, перапіў?

Лёнька абышоў стог, стаяў убаку ад трактара, які тарахцеў незаглушаным маторам, да чагосьці прыслухоўваўся.

— Эй, мужыкі, хадзіце сюды, паслухайце... Здаецца, музыка!

Сапраўды, дзесьці ў тумане і, здавалася, зусім недалёка іграў гармонік, чуліся вясёлыя галасы.

— Ну, вось! А вы баяліся... Бяром накірунак па азімуту і праз дзесяць хвілін — на месцы! Па машынах! — Мікола ўжо садзіўся за руль.

Хлопцы зноў уціснуліся ў кабіну.

— Па азімуту, дык па азімуту. Толькі не гані. Тут дзесьці побач гліняныя кар'еры — каб не кульнуцца. — Генадзь, здаецца, пачаў пакрысе цверазець. Ён нахіліўся да самага лабавога шкла, трымаючыся рукой за прыборны шчыток, пільна ўглядаўся ў цемру.

Іржышча засталося ззаду. Яны праскочылі вузкую палявую дарогу і выехалі на парослую здзічэлай, жоўтай травой пустку. Генадзю раптам здалося, што збоку праплыў нейкі высокі насып. "Кар'еры!" — мільганула страшная здагадка. Ён схапіў Міколу за руку і толькі хацеў крыкнуць: "Тармазі!", як раптам пярэднія колы праваліліся і трактар, чыркануўшы бульбакапалкай па краі абрыва, пераварочваючыся ўверх коламі, паляцеў у бездань...

Запознены лістападаўскі ранак з цяжкасцю прабіваўся праз сырую цемру нясмелым, як працэджаным праз марлю, святлом. Туман асядаў на голае голле дрэў, кусты, электрычныя правады буйнымі халоднымі кроплямі, якія, зрываючыся, глуха шпокалі па апалай, счарнелай лістоце. Пачынаўся звычайны дзень позняй восені. Ён напаўняўся гукамі абуджанай вёскі: пераклікаліся асіплымі галасамі пеўні, зноў рыпелі калаўроты калодзежаў, бразгалі вёдры. Пахла дымам, прэлым лісцем, сырою зямлёй.

(Заканчэнне на стар. 12)

лялечнаму прыгожанькага, спакушальна зваблівага, адштукаванага ў салоне цырульніка па апошняй модзе ў яе не было. Я ніколі не бачыў у яе і не чуў у голасе Ждановіч нечага прынадлівага, прызначанага жанчынай пакарыць мужчынскае сэрца. Без крыкліва паказной прыгажосці Ірына Фларыянаўна была сапраўднай артыстычнае красы дамай з абвостраным пачуццём асабістай годнасці.

У маладыя гады яна іграла ролі такіх амплуа, як травесці (Данілка ў "Раскіданым гняздзе" Я. Купалы, Ганс у драме "Стралок Тэль" С. Заяіцкага, Конрад у "Жакерыі" паводле Мерымэ, Юрка Лютынскі ў п'есе "Канец дружбы" К. Крапівы) альбо інжэню (Майка ў "Платоне Крэчаце" А. Карнейчука). Гэтымі персанажамі сцвердзіла магутны творчы патэнцыял свайго таленту. Дарэчы: талент Ждановіч крышталізаваўся самастойна, без якой-небудзь "школы". І не надта спрыяльныя былі ўмовы яе акцёрскага сталення. Анёлы не апекавалі яе. Яна рана засталася без маці, якая памерла маладой. Бацька яе — знакаміты заснавальнік БДТ Фларыян Ждановіч — ажаніўся на актрысе, якая стала асірацелай дзяўчынцы не надта добрай мачахай. Да таго ж Гелена Пралеска вельмі раўнавала Фларыяна Паўлавіча да маладзенькіх актрыс і аднойчы пасля скандалу ў доме застрэлілася. А ў трыццатыя гады бацьку абвінавацілі ў нацдэмаўшчыне, выжылі з тэатра, які ён і стварыў — Першы БДТ, пасадзілі за краты і потым выслалі бліжэй да Палярнага круга, дзе ён і пахаваны ў безыменнай магіле.

Нагадваю ўсё гэта, каб сказаць, што ўжо ў першых сур'ёзных ролях Ірына Фларыянаўна выявіла надзвычай кранальны трагедыйны тэмперамент.

У тэатральным свеце сапраўдны трагік — рэдкасць. Бо яму наканавана жыць на сцэне разлютаваным болем. Ніхто так не пакутуе ад свайго мастацтва як артыст гэтага кшталту. Вельмі рана тое ўсвядоміла Ірына Фларыянаўна. Ужо на схіле яе жыцця мы з ёй сустракаліся на прагулянцы недзе ля гарбатага мастка ў зялёнай засені ліпы ў парку над Свіслачу і не вельмі каб часта, але заводзілі гамонку ў рэчышча акцёрскіх таямніц. Помню, што значыла для яе тое заўсёднае адчуванне свайго менавіта трагедыйнага пачатку ў творчасці. Прыблізна яна тое тлумачыла наступным чынам: увесь драматызм чалавечага лёсу акцёр глыбока раскрывае, калі яго душа вучыцца змагацца з нядоляй праз пакуты цела, а цела набірае ваяўнічую энергію ад шалёна страснага болю і гневу душы.

— Не спрачайцеся са мной! Я тое зведала: душа скажаецца, калі па-рабску абслугоўвае цела, а цела здавальняецца шчасліва толькі ў згодзе з душою, — чамусь гарэзліва абвясціла Ірына Фларыянаўна і пагразіла мне пальчыкам.

О, чаго іншага, але пакут хапала на яе долю. Сумна ўспамінаць тое ганенне, якое чынілі супраць Ірыны Фларыянаўны дамарошчаныя заступнікі ідэйнай чысціні ў тэатральным мастацтве. Гэтае вымаганне ад яе, ад дачкі "варожага элемента нацдэмаўскай арыентацыі" (такую лухту вярзлі пра Фларыяна Паўлавіча), пэўна вызначанага стаўлення да ягонага "шкодніцтва на савецкай сцэне". Пытанне ставілася рубам: альбо адрачыся ад Ждановіча і тым зняславіць канчаткова яго, альбо... Уяўляеце, колькі асабіста перажытага і пакутлівага аддавала Ірына Фларыянаўна сваёй Верачцы Каламійцавай у "Апошніх", пастаўленых у трыццаць праклятым— трыццаць сёмым годзе! У спектаклі ж аднаўляліся прыгоды ў сям'і прафесіянальных жандараў, гэтых ганіцеляў праўды і свабоды, гэтых бязлітасных следчых, ад якіх бывае ніякімі сіламі адкараскацца і немагчыма.

Маю сям'ю таксама апякло рэпрэсіўным агнём сталінскага чыну, і я зазнаў хоць і невялічкую крыху ды памятнага юначага бедавання з кляймом "сын памагатага ворагам народа". Уяўляю бездань тае абразлівай ганьбы, хвалі якой не аціхалі і часам маглі накрыць з галавой Ірыну Фларыянаўну. Маючы права выступаць на сцэне пад мужавым прозвішчам — Платонава, яна свядома і няўступліва трымала годнасць і ўпраўду высокага імя ў беларускім сцэнічным мастацтве — годнасць роду Ждановічаў.

І не дзівіць мяне геніяльны насамрэч узлёт трагедыйнага адчаю, які да глыбіні душы трывожыў і ўзрушаў глядзельную залу ў фінале спектакля "Рамэа і Джульета". Мне і сёння чуецца... і сёння звініць і пераліваецца тое здзіўленае, тое загадкава прадчувальнае, балючым стогнам лятучае на сцэне "О-о-о!.." Адзін-адзіны гук, ён дужэецца і дужэецца — звонкі... гулкі... грымотны... То пачынаецца галашэнне Джульеты. Яна абудзілася ад непрытомнага сну і ўгледзела ў сілуэце пад плашчом-хітонам абрысы такой знаёмай распластанай фігуры. На дыбачках наблізілася да ахінутага чорным покрывам, — і тое "о-о" прарываецца трывогай. Яна прыпадымае крыссе плашча ўсё вышэй і вышэй, і ён ужо жалобным сцягам навісае над Рамэа. Нерухома скамянелым. Смяротна збялелым. Кантыленнае "О" набірае крэшчэнда. Крычма крычыць яна ад нясцерпнага болю: чорнае палотнішча плашча бы мур тупіка, з якога ёй ужо няма выйсця. Джульецін голас, як ёсць духу, сягае ўвышкі, нібы рассоўваючы скляпенне храма (дэкарацыя на сцэне) і сцены самога тэатра.

Прабівае столь. Прабівае дах. Узлятае ў нябесны блакіт і адначасова крыламі параненага птаха б'ецца яшчэ тут, у зале, — аб ложы і балконы, узрушаючы сэрца прэм'ернага гледача.

Маё сэрца.

Паўтару: мы на першым прадстаўленні спектакля ў студзені 46-га. Прамінула цэлая эпоха — і якая! — ды вось затрымаешся ля магілы народнай артысткі Беларусі Ірыны Ждановіч на Усходніх могілках... угледзіш жменьку валошак у шклянцы... А некалі падчас першых пасляваенных гастрольных выступаў купалаўцаў у Маскве летам сорак восьмага года я, мінскі газетны карэспандэнт, праводзіў да гасцініцы радасна стомленых Ждановіч і Платонава пасля "Рамэа..." і нёс цэлы ахапак букетаў з пунсовымі ружамі, якімі масквічы засыпалі нашых артыстаў. Каханкі з Вероны загаварылі ў сусветна вядомай тэатральнай Меке па-беларуску! Помню, як сарамліва баялася паверыць Ждановіч сказанаму ёй славутай мхатаўкай Алай Тарасавай: "Вы, Ірачка, свяціла беларускай сцэны..."

Была свяцілам... Я тут гаварыў пра яе арыгінальныя творчыя здабыткі толькі ў сцэнічных эпізодах без слоў. Якім жа хараством свяціліся створаныя ёю вобразы, калі Ірына Фларыянаўна мела тэкст і паглыблялася ў падтэкставыя разгадкі тых матываў жаночага памкнення да шчасця, знаўцамі якіх былі Уільям Шэкспір і Генрык Ібсен, Аляксандр Астроўскі і Максім Горкі... Не забыць яе Джульету і Нору, Людмілу і Сашачку Негіну, Верачку Каламійцаву і Соф'ю Зыкаву. Актрыса жыла страсцямі сваёй гераіні і адначасова штосьці істотнае ад свайго "я" ў тыя страсці арганічна ўплятала. А страсць жа, вядома, гэта наша жарлівае жаданне, якое змагаецца з супраціўам іншых і з уласнымі ўнутранымі супярэчнасцямі. Мо й праў быў Васіль Шукшын, калі характарызаваў чалавека наогул так: выпадковая, цудоўная і пакутліва жарлівая спроба прыроды ўсвядоміць саму сябе. Пэўна акрэсленыя жанчыны актрысы Ждановіч часам наводзілі і на такое разуменне чалавека.

... Аблокі праплываюць над сасновымі шатамі, ля падножжа якіх спачывае яна вечным сном. Актрыса, роўнай якой няма і не было. Я схіляю перад Ёй галаву і... Зноў і зноў мароз прабягае па спіне: чую Джульеціна "о". Думаю пра нязгасную чароўнасць акцёрства наогул і Яе, Ірыны Фларыянаўны, асабліва. Яна выходзіла на падмосткі ў святло рампы нібыта больш ладная, вышэй ростам, прыгажэйшая за саму сябе. Магічна вабныя вочы праменілі і ззялі жарлівым пачуццём, што хвалявала ў тую хвіліну душу тэатральнай гераіні. Сённяшняй. І актрыса паўставала перад намі ва ўзбуйненай красе: на Яе апускалася Боскае святло.

Ды вось закрылася заслона. Адшумелі апладысменты. Акцёры разыходзяцца па грымёрках, узбуджана гаваркія, усхваляваныя. Яна ж нібы хмурнее, panыла блякне, тушуецца, яшчэ пасылаючы лагодную ўсмешку памочніку рэжысёра або падзяку касцюмерам... Стамілася ці то занудзілася? Нат выглядае асірацелай, робячы крокі са сцэны ў нашу будзённасць, у мітуслівую нашу яву — з чэргамі і сваркамі, з даносамі і пасяджэннямі, з агітпропамі і кампанейшчынай на вытворчасці і ў грамадскім жыцці, з гэтай пагоняй за славай і багаццем, з гэтымі кар'ерыстамі і ўладарамі-начальнікамі ўсіх масцей...

Фініта ля камедыя! Апалон больш не патрабуе ад Яе, ад Актрысы, натхнення і ахвяры — і гасне штосьці ў Ёй, глухне, скручваецца, хаваецца. Душой і целам Яна ўсё аддавала сваёй сённяёшняй гераіні там, на падмостках, і прыцішылася, бо ведае, мабыць, якое нядоўгатрывалае ўсякае акцёрскае дзіва (існуе пакуль на падмостках дзейнічае акцёр). Яна здагадваецца, мабыць, што бляск зорнага куміра самай яркай яснасці павядае і нікне ў хмурынах такога бязлітасна няўпыннага часу.

Купалаўцы не адзін год хадайнічаюць перад адпаведнымі ўладамі, каб на доме, дзе жыла гэтая выдатная беларуская артыстка, была мемарыяльная дошка ў гонар найвялікшай трагедыйнай Актрысы мінулага стагоддзя. Ніяк не збярэцца сталічны Мінск зрабіць тое — губляецца ў горада ў памяці Ждановіч. Хіба не рэцыдыў нашага нядаўняга мінулага ў такой пагардзе да таленту нацыянальнай каштоўнасці! Нездарма кажуць: і самая заслужаная слава — гэта дым, які трэба безупынку аднаўляць, калі вы хочаце, каб яна доўжылася. Удзячных гледачоў, што могуць хоць неяк напомніць наступнікам пра той "дым", застаецца ўсё менш і менш.

**Барыс БУР'ЯН**

МЕРКАВАННЕ

# "Прыярытэты", або Пра што маўчала СТБ

На канале СТБ сярод размаітых відэасюжэтаў пра Мінск ды мінчукоў з'явіўся і такі: Станіслаў Чарняўскі, арганных спраў майстар, знаёміць гледачоў з прадметам свайго шматгадовага клопату — самым вялікім і таямнічым музычным інструментам.

Інструмент гэты, размешчаны на некалькіх паверхах будынка сталічнай філармоніі, ужо без малога 40 гадоў упрыгожвае і яе сцэну, і наша канцэртнае жыццё, і культурнае аблічча краіны. І ўвесь гэты час яго даглядае, настройвае, ратуе ад "хвароб" унікальны, незаменны спецыяліст — майстар Чарняўскі.

Мне таксама, як і калегам з СТБ, пашанцавала калісьці пазнаёміцца са Станіславам Мацвеевічам, светлым, шчырым, надзвычай сумленным і адказным чалавекам, паслухаць яго аповед пра мінскі канцэртны арган, пра гісторыю, сакрэты і праблемы найскладанага і далікатнага музычнага механізма. Таму выклікала ў мяне тая тэлезамалёўка і асаблівую цікавасць, і сімпатыю, і... Прыкрасць.

Прыкрасць?! Так. І прыкрасць штораз пагражала выбухнуць абурэннем: на экране — амаль ідылічная карцінка, наяве — амаль трагічная сітуацыя! Арган даўно ў аварыйным стане, апошнім часам не працуе. І яго клапатлівы апякун захварэў, у бальніцы...

З лета сюжэт пра майстра Чарняўскага ўжо не пракручваецца ў "рэкламных паўзах". Ці проста на яго не патрапляю? Але ж дзякуй, СТБ, за ўскосную падказку: вярнуцца да надрукаванага!

●

1 мая 1998 года "ЛіМ" змясціў гутарку свайго нештатнага карэспандэнта, вядомага мінскага музыканта і педагога Аляксандра Мільто, са Станіславам Чарняўскім — тым самым унікальным спецыялістам, які даглядае галоўны канцэртны арган краіны. Для публікацыі мелася і аператыўная нагода: мінула акурат 35 гадоў, як цудоўны інструмент чэшскай вытворчасці быў устаноўлены ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ды толькі тон гутаркі з майстрам атрымаўся зусім не ўрачысты. Нават загаловак папярэджваў: "А майстру — трывожна..."

Ужо тады "стан здароўя" аргана выклікаў трывогу, і С. Чарняўскі даводзіў неабходнасць неадкладнага рамонту, без якога інструмент можа хутка загінуць. І тады страты будуць несувымерныя з тымі грашовымі праблемамі, якія замінаюць радыкальным захадам па ўратаванні нацыянальнай культурнай каштоўнасці.

Рамонт сталічнага канцэртнага аргана, дарэчы, аднаго з лепшых у Еўропе, — клопат дзяржаўны. Так падумалі мы, накіроўваючы тую публікацыю на рэагаванне ў Міністэрства культуры Беларусі. Атрымалі адказ, падпісаны першым намеснікам міністра Уладзімірам Рылаткам. Гутарка, змешчаная на старонках "ЛіМа", аказалася надзвычай актуальная і ў маштабе дзяржаўным, бо, як вынікала з адказу, "праблемы, паднятыя ў публікацыі "А майстру — трывожна..." А. Мільто ("ЛіМ" за 1.05.98 г.), ужо з пачатку 1998 года знаходзяцца пад непасрэднай увагай Міністэрства культуры".

І гэта яшчэ не ўсё. Мы даведаліся таксама, што "на сённяшні дзень сумесна з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй амаль завершана прапрацоўка комплексу пытанняў, звязаных з рамонтам аргана — складзена неабходная тэхнічная і фінансавая дакументацыя, вызначаны крыніцы фінансавання. Пасля завяршэння падрыхтоўчых работ Міністэрства культуры выдзеліць неабходныя сродкі на вышэйназваныя мэты". Афіцыйны адказ мусіў, здавалася б, супакоіць усіх. Аднак трывога майстра за лёс інструмента перадалася і нам, таму лаканічны ліст з міністэрства толькі спарадзіў рытарычныя пытанні. Калі пачнецца рамонт? Як адаб'ецца ён на рэжыме працы філарманічнай залы? Ці будуць запрошаныя майстры-спецыялісты з-за мяжы? Колькі прыкладна будзе каштаваць "лячэнне" аргана? Хто будзе каардынатарам работ, кансультантам, экспертам? Нарэшце, якая роля прызначана ў гэтай справе С. Чарняўскаму — адзінаму сапраўднаму знаўцу "гісторыі хваробы" і характару кожнай клетачкі музычнага арганізма?..

Цяпер — увага на даты.

10 ліпеня 1998 года "ЛіМ" пазнаёміў чытачоў з афіцыйным адказам на сваю публікацыю, датаваную 1 мая. Праз тры гады, 27 красавіка 2001-га, рэцэнзуючы дабрачынны канцэрт майстроў мастацтваў розных краін, што быў прымеркаваны да 15-х угодкаў чарнобыльскай трагедыі, мы мусілі адзначыць прыкрую акалічнасць, у якой апынуліся ўдзельнікі германскага хору "Cantus Domus" і артысты Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі. (Яны падрыхтавалі супольную праграму і вельмі паспяхова выступалі разам у Мінску, у Полацку, у Берліне).

Зноў прыкрасць, начыненая абурэннем?.. А як жа інакш рэагаваць, калі з-за няспраўнасці філарманічнага аргана музыканты мусілі ратаваць сітуацыю, парушаючы святая святых — партытуру вялікага Баха, і замяняць партыю магутнага, культавага для рэлігійнага жанру, інструмента гучаннем далікатнага клавесіна!

Іронія лёсу: выконваў гэтую партыю Аляксандр Мільто, аўтар прыгаданай "першамайскай" публікацыі. Яго колішні суразмоўца, безумоўна, трывожыўся нездарма...

●

А з часу публікацыі мінуў сакраментальны тэрмін: тры гады. І, па ўсім відаць, не лепшыя ў жыцці майстра Чарняўскага ды ў лёсе сталічнага канцэртнага аргана. Распытала Аляксандра Мільто. Адказ пацвердзіў мае зусім не аптымістычныя меркаванні:

— **Зразумела, я не даследаваў сітуацыю адмыслова, я ўсяго толькі зацікаўлены і неабыякавы музыкант-практык, чагосьці магу і не ведаць. Але галоўнае ведаю: арган у Канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі "маўчыць" ужо другі год і стан аргана ў Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы, у касцёле, — крытычны. Гэты, так званы малы арган вымагае неадкладнага прафілактычнага рамонту! А як будзе — час пакажа. Пакуль жа нічога добрага ён не паказаў. Арган у Канцэртнай зале працаваў з 1963 года без прафілактычнага рамонту! І ўрэшце не вытрываў такога варварскага стаўлення.**

**Станіслаў Мацвеевіч Чарняўскі марна даводзіў свайму кіраўніцтву, што даўно ўжо неабходна было зрабіць прафілактыку, пачысціць ад пылу, апрацаваць шэсць тысяч труб, сярод якіх ёсць не толькі металічныя, але і клееныя драўляныя, адладзіць маторы, агледзець мяхі (там капрызлівы матэрыял — скура). Ён распрацаваў методыку такой працы, сабраў матэрыялы, гатовы быў зрабіць усё ўдвух з сынам Генадзем, настройшчыкам аргана ў Зале камернай музыкі. Але камусьці, напэўна, падалося, што майстар на гэтай справе "разбагацее". Пачалася неўразумелая цяганіна, і вось — вынік...**

**Станіслаў Мацвеевіч, якому ўжо за 70, з роднай філармоніі, я чуў, хоча звольніцца. Сын Генадзь, нагледзеўшыся на пакуты самаахвярнага бацькі, не збіраецца прадаўжаць яго справу за мізэрную плату. Да слова, настройшчыкі музычных інструментаў маюць нізкія службовыя аклады. У Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі, дзе я выкладаю, такія спецыялісты — дэфіцыт. Звычайная аднаразовая настройка раяля на прыватных умовах каштуе заказчыку 20 долараў. А школьнаму настройшчыку пры канцы мінулага навучальнага года плацілі 27 тысяч рублёў у месяц за рэгулярнае абслугоўванне васьмі інструментаў! Хіба так павінна ацэньвацца унікальная і карпатлівая праца?**

●

Цынічна гучыць, але ж... "на Чарняўскім зэканомілі". Перастрахаваліся-паскупіліся? Давядзецца плаціць куды больш, бо для капітальнага рамонту аргана трэба запрашаць замежных майстроў, прадстаўнікоў фабрыкі-вытворцы. Хаця Чарняўскі, нягледзячы ні на што, усё яшчэ гатовы ўратаваць выпеставаны ім інструмент.

Зрэшты, можа, корань праблемы не ў колькасці грошай, а ў прыярытэтах фінансавання? Можа, вялікі канцэртны арган, адзін з лепшых у Еўропе, ужо не лічыцца прыярытэтнай каштоўнасцю нацыі, візітоўкай культурнага жыцця сталічнага горада ў цэнтры еўрапейскай цывілізацыі? Можа, укладаць грошы ў яго рамонт— непрэстыжна, немэтазгодна, бесперспектыўна? Можа, культурнае аблічча Мінска ў трэцім тысячагоддзі будзе вызначаць нейкі іншы сімвал?

І ці не падаецца вам, што гэты іншы сімвал-прыярытэт ужо знойдзены? Прычым, непадалёк ад філармоніі. Амаль насупраць. Па той бок плошчы Якуба Коласа: крыху наперад — і ўправа. Гляньце, з якой хуткасцю прыхарошваецца тут наша Камароўка, пераапранаючыся ва ўсё новае і дарагое! З чаго б гэта?

...А Майстру ўжо не трывожна. Майстру — балюча.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**





*Пражыта 90...*



**Дзевяноста гадоў споўнілася Фрыдзе Рапапорт. Усе, хто сустракаўся з ёю, выкладчыцай фартэпіяна, завучам першай мінскай дзіцячай музычнай школы імя Л. Александроўскай, могуць шмат расказаць пра гэтага інтэлігентнага, неардынарнага чалавека.**

**Ёй самой ёсць чым падзяліцца з моладдзю. За сваё жыццё Фрыда Саламонаўна старалася не абмінуць ніводнага цікавага для яе канцэрта. Сярод іх — выступленні выдатных піяністаў: нямецкага выканаўцы і педагога, вучня славутага італьянскага музыканта, дырыжора, кампазітара і музычнага пісьменніка Феруччо Бузоні, — Эгана Петры, нашых знакамітых суайчыннікаў Генрыха Нейгаўза, Святаслава Рыхтэра... Яна слухала і пастаянна сама вучылася, вучыла іншых. Сёння ў свае дзевяноста Фрыда Саламонаўна паранейшаму яркая, цікавая суразмоўца.**

**Успамінае, успамінае, успамінае...**

**У яе, ураджэнкі Мінска, рана выявіліся музычныя здольнасці, якія развівала цудоўны патрабавальны педагог Эсфір Сульская. Пакуль дома не было інструмента, Фрыда хадзіла займацца да чужых людзей. Потым купілі піяніна, і радасці не было канца! А калі стала студэнткай Мінскага музычнага тэхнікума па класе Георгія Пятрова, займалася не меней як тры гадзіны ў дзень.**

**Другі выпуск Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класе прафесара Яўгеніі Зільберберг-Ступнік... Фрыда закончыла кансерваторыю выдатна, атрымала дыплом з адзнакай. Выкладаць фартэпіяна сама пачала з 1933-га. Але свае карэктывы ў жыццё ўнесла вайна.**

**У чаканні нараджэння дзіцяці Фрыда змагла пакінуць Мінск пры канцы чэрвеня 1941-га. Дачка нарадзілася ў Горкім. Дабраліся да Ташкента, потым зноў вярнуліся ў Расію. Вясной 1943-га разам з калегай-музыказнаўцай арганізавалі ў Мураме музычную школу...**

**А ў толькі-толькі вызваленым ад захопнікаў Мінску яны разам з І. Германам узнавілі першую музычную школу, адкуль самых адораных вучняў накіроўвалі ў спецыяльную школу-дзесяцігодку пры кансерваторыі. Стварылі шэраг філіялаў музычных школ — у Мінскім акруговым Доме афіцэраў, у раёне трактарнага завода, у калгасе імя М. Гастэлы ды інш.**

**За 40 гадоў педагагічнай дзейнасці яна падрыхтавала столькі вучняў, што няпроста палічыць. Сярод іх Фрыда Саламонаўна называе Ларысу Крук — завуча 4-й мінскай ДМШ, Галіну Сажыну, якая працуе ў Ташкенце, педагога Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Алу Рашацян, Галіну Таўлай, якая цяпер жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу, Геру Сафонаву — рэгента вялікага царкоўнага хору ў Маскве, Тацціяну Валадзько, якая выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі.**

**Вучні не забываюць свайго педагога па фартэпіяна. Некаторыя з іх, як, напрыклад, выкладчыкі Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі Галіна Плевіна (Вацякова), Ірына Вярхоўская (Дорская), Вета Матусевіч прыйшлі да Фрыды Саламонаўны, павіншавалі яе з юбілеем. Вельмі цёплае сардэчнае віншаванне — грамату Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі з вершаванымі пажаданнямі здароўя, душэўнага багацця атрымала яна ў гэтыя юбілейныя дні. Па-добраму пазайздросціш яе даўгалеццю, светламу розуму, зычлівасці, інтэлігентнасці, шчырасці. Гэта ж эталон сучаснага Чалавека, да якога, калі давядзецца дажыць, хочацца быць падобным у пачцівым узросце.**

Вера КРОЗ

МУЗЫКА

# "Брава!" дырыжору

Шмат публікі прыцягнуў нядаўні паказ камічнай оперы В. А. Моцарта "Вяселле Фігара". Пастаўленая на мінскай сцэне амаль дваццаць гадоў таму выдатным дырыжорам У. Машэнскім, рэжысёрам С. Сільніцкім, мастаком Э. Стэнбергам, яна мела поспех і цяпер.

Аркестр Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі пад кіраўніцтвам знанага дырыжора з Расіі Дзмітрыя Зубава перадаў каларыт моцартаўскай музыкі, яе своеадметны стыль. Невыпадкова гэтага маэстра называюць спецыялістам па Моцарту! Выразна прагучала уверцюра. Усе нюансы, штрыхі захавалі моцартаўскі характар. Незвычайная выразнасць, лірызм, пяшчота адчуваліся ў кожным гуку. Асабліва мяккасць гучанню, водар той эпохі перадавалі клавесін, партыю якога бліскуча выконвала Ларыса Талкачова (да таго ж, яна працавала з салістамі і была адказным канцэртмайстрам гэтага спектакля).

Выканаўца партыі Фігара, уладальнік цудоўнага яркага голасу Васіль Кавальчук пакарыў публіку музычнасцю, эмацыянальнасцю, артыстызмам, выдатнай дыкцыяй. У партыі Сюзаны паспяхова выступіла Тацціяна Трацяк, якая вылучалася сваёй музычнасцю, пластычнасцю. Але, на жаль, дыкцыя спявачкі была не зусім выразная. Раскошны голас Ірэны Журко не заўсёды гучаў роўна, але ў цэлым яе Графіня была пераканаўчай. І гэта засведчылі апладысменты гледачоў. Многім спадабалася ў яе выкананні арыя з трэцяга акта.

У партыі графа Альмавівы выступіў Мікалай Майсеенка: яго герой выглядаў упэўненым заваёўнікам жаночых сэрцаў. Паж Керубіна Тацціяны Цівуновай яркі, сцэнічны, меў трохі буфонны характар. Упершыню выконваў партыю настаўніка музыкі Базіліё Аляксандр Жукаў — і паспяхова.

Таленавітая оперная спявачка Ніна Казлова, якая выдатна, каларытна выконвала ролю ключніцы Марцэліны, на жаль, была не ў голасе. З той самай прычыны не парадаваў і Алег Гардынец (доктар Бартала). А вось прыемнае ўражанне зрабіла Барбарына Ганны Гур'евай.

У оперы "Вяселле Фігара" шмат складаных ансамбляў, якія былі выкананы на рэдкасць удала. Дырыжор Дзмітрый Зубаў, які ўпершыню выступіў у нашым тэатры оперы, змог надаць спектаклю яркае, выразнае, тонкае гучанне, што мела вялікі поспех у публікі. Дырыжору шчыра, удзячна апладзіравалі — з надзеяй на новыя сустрэчы з гэтым таленавітым інтэрпрэтатарам.

**Вера КРОЗ**

# Пра час "Узвышша"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

віць ці ў лепшым выпадку пакалечыць. Параўнаць не ў тым сэнсе, што яны ўзяліся за непасільную для сябе працу (наадварот, дасягнулі ж неверагодна многага), а ў тым, што даводзілася працаваць пад пільным наглядам нядобразычлівай улады, што над галовамі творцаў пастаянна вісела як дамоклаў меч. Зрэшты, меч той на гэтыя галовы ўрэшце быў апушчаны. Андрэй Мрый і Лукаш Калюга загінулі ў ссылцы, а Кузьма Чорны з турмы вярнуўся з такім надарваным здароўем, што праз некалькі гадоў (пад канец вайны) памёр. Адной з прычынаў іхніх творчых пакутаў былі, апрача ўсяго, прычыны грамадскага быцця беларускага пісьменніка ў той час. І.Чыгрын таксама не забыў звярнуць на гэта ўвагу аўдыторыі.

У чытаннях таксама бралі ўдзел Алеся Бабарэка, Мая Кляшторная, Ларыса Глебка, Юры Гарбінскі, Віталь Скалабан, Ілля Куркоў.

**Алеся Адамаўна Бабарэка** перадала архіву-музею сямейную рэліквію — абрус, якім накрываўся стол падчас сустрэч у іх доме сяброў "Узвышша" і прэзентавала кнігу М.Ількевіча "Угасание. Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем и лагеря", якая выйшла толькі што ў Смаленску. Яе выступленне-ўспамін было прысвечана бацьку, У.Дубоўку, А.Адамовічу, М.Гарэцкаму:

" — 31-шы год. На маёй памяці бацька ўжо ссыльны. З намі яго няма. Мама збірае рэчы, каб ехаць усёй сям'ёй да бацькі "ў Вяцкую губернію". Ярка палае агонь у печцы-галанцы, што ў вялікім пакоі нашае менскае кватэры. Паляцца непатрэбныя паперы, ляцяць у печку і ламацьцё з дзіцячых цацак. Я плачу, прашу маму захаваць гэтае ламацьцё. Покуль бацька ў маёй памяці адсутнічае. Толькі з успамінаў маміных і лістоў да бацькі ягоных сяброў ведаю, якой напружанай творчай працай было насычана бацькава жыццё ў менскі перыяд, як бавіў ён свой час у атачэнні найлепшых сяброў сваіх, Дубоўкі, Пушчы, Жылкі, Кузьмы Чорнага, Крапівы, Бядулі.

Добра памятаю некаторыя рысы нашага жыцьця з бацькамі ў Слабацкім, невялічкім гарадку на рацэ Вятцы. Жывём на прыватнай кватэры ў мясцовай жыхаркі Анісьі Васільеўны, добрай жанчыны. Драўляны домік на два паверхі: наверсе — гаспадыня, унізе — мы. У нашым карыстаньні невялічкая куханька з велізарнай рускай печчу і маленькі пакойчык. Столь такая невысокая, што нашая мэбля, звычайнага памеру шафа не становяцца ў хаце і чакаюць свайго часу ў гаспадарскім дравяніку. Тата з мамай на працы (тата працуе бухгалтэрам, мама выкладае рускую мову ў школе). Мы з сястрой Лорай дома адны: яна, пяцігадовая, мне, трохгадовай, за няньку. Цацак у нас - два трапішныя зайцы, лялек няма: за лялек ідуць алоўкі, якія мы апранаем у сукенкі з паперы і ўладкоўваем на жыцьцё ў "палацах" — посуд пад ручніком на стале, дзе стаіць і наша надзённая яда — па шклянцы малака і лусьце хлеба. Калі-нікалі сястра робіць "сухамесь" з талакна на вадзе. Смачна! Можна з яго яшчэ ляпіць якіясь цацкі, а потым і з'есьці іх.

А вечарам з татам і мамай на зьмяркаьні, не запальваючы лямпы (электрычнасьці ў хаце няма), месьцімся ўсе на канапе і сьпяваем беларускія песьні: татавы любімыя "Зорку Венеру", "Прыляцелі гусі з далёкага краю", "А ў полі вярба", "Камарыка", "У месяцы верасьні", "Чаму ж нам ня пець", "У бубны дахаў вецер б'е". Мама сьпявае свае прыгожыя гродзенскія, мы з бацькам уважліва слухаем. Потым бацька запявае "Не загасьнуць зоркі ў небе". У яго велымі прыгожы барытанальны тэнар, мяккі аксамітавы тэмбр.

У Слабацкім ёсць яшчэ ссыльныя беларусы: Багдановіч Генадзь Васільевіч з жонкай Любоўю Мікалаеўнай, Маркевічы, Аніхоўскія. Сем'ямі наведваем адзін аднаго. Асаблівa часта бываем у Багдановічаў. У гэты час мы, дзеці, не адчуваем горкі стан бацькоў, не ведаем, калі бацька ходзіць "на адзнаку".

Кароткім і поўным трагізму было выступленне **Маі Кляшторнай.**

" - Я нічога не помню пра тую пару. Я помню толькі турэмны барак, дзе мы з мамай і іншымі жанчынамі-мамамі апынуліся як члены сям'і ворага народа. Помню, як палохалі мяне за дзіцячыя свавольствы карцэрам, які суседзіў з дзіцячым баракам, і як мяне ў турме прымалі ў піянеры. Нічога не засталося пасля бацькі: ні архіва, ні рэчаў, усё знішчана, разбурана. Ведаю, што частку архіва бацькі захоўваў дзядзька Іван — старэйшы брат бацькі. Але ў час вайны ўсё загінула. Удзячна, што запрошана на гэтую бяседу, што дапамаглі ступіць на бацькаў след".

**Ларыса Глебка** перадала архіву-музею копіі лістоў Паўлюка Труса да Пятра Глебкі і некалькі сямейных фотаздымкаў.

Да 75-годдзя "Узвышша" ў архіве-музеі была створана выстава "Каб узняцца ізноў, і вышай...", на якой дэманстраваліся дакументы, фотаздымкі, кнігі ўзвышаўцаў, часопіс "Узвышша".

Падчас канферэнцыі была прапанавана і падтрымана ідэя аб правядзенні ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва штогадовых "Узвышаўскіх чытанняў".

**Ганна ЗАПАРТЫКА**

# Туман

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

З адчыненых хлявоў цягнула цяплом і змешаным пахам гною, сена і сырадою. Гаспадыні даілі сваіх рахманых Кветак, Лялек, і пругкія струменьчыкі малака весела звінелі ў ацынкаваных даёнках. Вёска пачынала новы дзень са звычайных сялянскіх клопатаў. І ніхто яшчэ не ведаў пра страшную бяду, якая здарылася гэтай непраглядняй, чорнай ноччу.

Хлопцаў знайшлі толькі пад вечар. Страшная вестка маланкай абляцела вёску. Памятаю, як беглі людзі цераз поле, па зялёнай азіміне туды, да цагельні, дзе на краі глыбознага кар'ера ўжо мітусіліся рабочыя, чаплялі доўгі стальны трос да гусенічнага цягача. Трэба было прыпадняць трактар, каб з яго сплюснутай кабіны выцягнуць людзей, раздушаных яго шматтоннай масай.

Я не паслухаўся маці і прыбег туды разам са старэйшым братам. Прайшло ўжо столькі гадоў, а я і сёння памятаю тое страшнае відовішча: унізе, на дне глыбокага кар'ера, коламі ўгору ляжыць трактар з прычэпленай бульбакапалкай. Ад моцнага ўдару адляцела пярэдняе кола, кабіна змята. Рабочы, які чапляе трос да разбітага трактара, крычыць знізу, што ў кабіне тры чалавекі, але пазнаць іх нельга — тварaў не бачна.

На беразе кар'ера сабралася ці не палова вёскі. Войкалі і прыглушана галасілі жанчыны. Мужчыны панура маўчалі і з нейкай злосцю адганялі нас, дзяцей, ад гэтага жудаснага месца.

Хлопцаў выцягнулі з разбітай кабіны і пакуль шукалі машыну, каб адвесці іх у райцэнтр у бальніцу, яны ляжалі на дне кар'ера — скурчаныя, страшныя і нейкія ўжо далёкія і чужыя...

З таго трагічнага дня, калі смерць так гвалтоўна і бязлітасна забрала трох маладых, поўных жыццёвай энергіі хлопцаў, маіх суседзяў, якіх я добра ведаў і якія былі часцінкай майго жыцця, штосьці надламалася ў маёй душы і свядомасці. Я зразумеў, што смерць — гэта не штосьці абстрактнае і прывіднае. Смерць — гэта штосьці страшнае і непазбежнае, што можа ў любую хвіліну прыйсці да кожнага з нас і пазбавіць усяго, што мы гэтак любім на зямлі: родных і блізкіх людзей, сонца і блакітнага неба, васількоў у спелым жыце і нават гэтага асенняга сырога туману. Калі мы сутыкаемся са смерцю, гэта прымушае нас па-новаму паглядзець на жыццё. Смерць абвастрае нашы пачуцці, напамінае нам аб хуткацечнасці часу і непазбежным канцы. Ці любілі б мы так жыццё, каб у нас не было вось гэтага адчування смерці? Не ведаю. Ведаю толькі, што мы сталеем, і дзяцінства заканчваецца тады, калі мы пачынаем разумець, што ў гэтым жыцці ўсё прахоўдзіць беззваротна і назаўсёды...

Чалавеку, відаць, патрэбна гэтае адчуванне канца, смерці, кароткачасовасці яго існавання на гэтай зямлі, каб душа балела за нязддзейсненае, за дарма пражытыя імгненні, хвіліны, дні... "Memento mori" — помні аб смерці — гаварылі старажытныя рымляне. Помні і пражыві адпушчаны табе Богам час годна, без непатрэбнай мітусні, нянавісці, зайздрасці... З любоўю і цярпеннем у сэрцы. З верай у душы ў вышэйшую справядлівасць і праўду. І не адкладвай сваіх спраў на заўтра — заўтра ў цябе можа і не быць...

Вядома ж, мае пачуцці ў тую далёкую восень не знаходзілі такога вось слоўнага выяўлення, але ў маю душу, душу чатырнаццацігадовага падлетка, назаўсёды ўвайшло трагічнае адчуванне смерці і, мабыць, ад гэтага жыццё пачало ўспрымацца больш цвяроза і ўжо падаросламу больш мудра.

Хлопцаў хавалі на наступны дзень. А разам з імі хавалі радасць і надзеі іхніх мацярок. Яны засталіся на гэтай зямлі дажываць свае гады ў вечнай скрусе і невыноснай тузе ў збалелых, разбітых сэрцах.

Калі людзі разыходзіліся з могілак, туман зноў накрыў вільготным белым пакрывалам поле, вёску і тры свежыя магілы ля самай дарогі. На жоўты пясок і на гладкія белыя крыжы асядалі дробныя кропелькі халоднай расы. Апусцелую зямлю, вёску, не супакойваючы растрывожаныя душы жывых, агортвала ранняя восеньская цемень і глухая насцярожаная цішыня.

# Вы шуміце бярозы...

Радзіма, народ, час...

Трыадзінства гэтае стаіць ля калыскі паэта, як і наогул кожнага мастака, — бласлаўляючы яго нараджэнне.

Трыадзінства гэтае вядзе яго пакутнымі сцежкамі творцы, — не спрамляючы шляхоў, а падказваючы і вызначаючы іх.

Трыадзінства гэтае хрэсным знакам Тройцы аберагае ад нячыстых помыслаў, ад творчазгубных д'ябальскіх спакусаў.

Прамаўляючы гэтыя словы, думаю зараз пра Ніла Гілевіча. Пра Ніла Гілевіча — як асобу, як паэтычную з'яву наогул і як аўтара верша "Вы шуміце, шуміце..." у прыватнасці, — верша, загадкавага сваёй простасцю і крылатай наканаванасцю...

*Вы шуміце, шуміце*
*Нада мною, бярозы,*
*Калышыце, люляйце*
*Свой напеў векавы.*
*А я лягу-прылягу*
*Край гасцінца старога*
*На духмяным пракосе*
*Недаспелай травы...*

От жа, здаецца, звычайныя словы, без асаблівых, "прызначаных" дзеля жанру ўпрыгожванняў. Але чаму ж такое неадольнае і разам несуцішна-шчымлівае пачуццё стаіць на парозе тваёй душы, выпраменьваецца гэтымі вольнымі радкамі? Музычная версія, прапанаваная кампазітарам Эдуардам Ханком і выканаўцам Анатолем Ярмоленкам? Несумненна, ёсць і яе доля. Толькі не забывайма: і яна ж магла нарадзіцца не інакш як на паэтычнай аснове. Музыка ўгадала паэзію. Музыка сэрцам прачытаў паэта...

Дык у чым жа "абманлівасць" гэтай "прастаты"? Гэтаксама, як у Гётэ, — згадваючы выдатны лермантаўскі пераклад, мовім па-беларуску:

*Горныя вяршыні*
*У цемры спяць начной;*
*Поўняцца даліны*
*Свежаю імглой;*
*Не пыліць дарога,*
*Не дрыжаць лісты...*
*Што ж, чакаць не доўга, —*
*Адпачнеш і ты...*

Зазначым, аднак, адразу, каб не ўзнікалі няпрошаныя прымерванні: гаворка ідзе не аб настраёвым ладзе верша, а аб спосабе паэтычнага выяўлення пачуцця. У Гётэ было сваё, філасофска-мінорнае імгненне, засведчанае вершам, у Ніла Гілевіча (хай прабачаць музыкі маё магчымае дылетанцтва) мажор гучыць у мінорнай танальнасці...

*А я лягу-прылягу*
*Край гасцінца старога,*
*Галавой на пагорак,*
*На высокі курган.*
*А стомлёныя рукі*
*Вольна ўшыркі раскіну,*
*А нагамі ў даліну —*
*Хай накрые туман...*

Радзіма... Кожны пагорак і кожная лагчынка, кожны лісток і кожная пясчынка, — ад нараджэння твайго праз усё жыццё, — гэта і ёсць ты, калі дадзена табе быць яе сынам, тым больш — паэтам. Хто выбірае цябе? Ніхто не адкажа. Як не адкажаш і ты сам... Але — ёсць яно, трыадзінства...

Хто бываў на радзіме Ніла Гілевіча, на Лагойшчыне, — той не можа не пагадзіцца: сапраўды — тут беларуская "швейцарыя". Няхай не прагучыць гэта банальна з-за неаднаразовых паўтарэнняў. Яно сапраўды так: тут і горы — няхай сабе і не па-альпійску выносістыя, а ўсяго толькі пясчана-жвірыстыя, прынесеныя і перамолатыя з гранітных скалаў скандынаўскімі ледавікамі; тут, натуральна, і даліны, — з вірлівымі стужкамі крынічных рэчак, з блакітнымі азярынамі. І дарогі такія ж: то ўзносяцца да неба, то вяртаюцца на зямлю...

Хто калі-небудзь ехаў ці ішоў з Нілам Гілевічам па адной з іх, што вядзе з роднай ягонай Слабады да Лагойска (успомнім старажытнае — Лагожаск, — у тон нашай ландшафтнай панараме), таму паэт абавязкова — з папярэдняй вясёлай інтрыгай — не мог не паказаць між бярозавых прысадаў прыдарожную мясціну, дзе ён упершыню пабачыў свет, загукаў на ўвесь шырокі прастор гэтых пакатых узгор'яў і зялёных далін... Такая доля ў вясковай жанчыны: насіць пад сэрцам дзіця і да апошняга несці пільныя гаспадарчыя клопаты і ў хаце, і ля хаты, і ў полі... Не давезлі маці да лагойскіх акушэрак. І нарадзіўся Ніл Гілевіч зусім па-ясенінску: "Охнула кормилица, тут и породила... ...Родился я с песнями в травном одеяле..."

А во цяпер няцяжка ўжо і мець здагадку: адкуль гэтая крэўнасць бяроз...

*Вы шуміце, шуміце*
*Нада мою, бярозы,*
*Асыпайце, мілуйце*
*Ціхай ласкай зямлю.*
*А я лягу-прылягу*
*Край гасцінца старога:*
*Я здарожыўся трохі.*
*Я хвілінку пасплю*

Гэта і ёсць радзіма, зямля, дзе ты нарадзіўся. Зямля, што з матчыным блаславеннем сабрала цябе ў дарогу. Зямля, куды будзеш ты вяртацца і вяртацца, бо тут, кажучы словамі Сяргея Законнікава, жыве твая бяроза — душа і песня: тваёй радзімы, твайго народа. Твая душа...

І дарога тая, твая дарога, — не толькі шлях у прасторы, гэта і шлях у часе. "Калышыце, люляйце свой напеў векавы..." А "напеў векавы" — гэта і "Ой бярозы ды сосны, партызанскія сёстры..." (Адам Русак); і "А што як Зямлю нашу выпусціць з рук сасна і бяроза?.." (Аркадзь Куляшоў)... І выяўляецца, што калыханка гэтая — хутчэй не дзеля сну, а дзеля абуджэння. І не проста стаміўся чалавек, а здарожыўся, — значыць, быў у нялёгкай дарозе ("А хто там ідзе?.." — Янка Купала); "Вы за кім у пагоні спяшыце? Дзе шляхі вашы йдуць і куды?.." — Максім Багдановіч) і прыпаў да роднай зямлі, каб (успомнім Антэя!) набрацца моцы, абнавіць сілы. І таму гэты — як і ў эпасе старажытнай Грэцыі, як і ў волатаўскіх славянскіх былінах, — неўтаймоўны размах: ад высокага кургана ва ўзгалоўі да шырокай даліны ў нагах... Угрунтаванасць паэтычнага малюнка карэніцца ў вобразах народных легенд і паданняў, у свеце якіх Ніл Гілевіч — чалавек свой і глыбока дасведчаны... (Зважаючы на гэта, не стаў бы дакучаць маім стыхійна-дзіцячым "маўленнем": "калыхайце, люляйце" замест "калышыце, люляйце...", але ж... так адольвае гэтае гайданне з "й"... Можа, мне здаецца: яно прысутнічае ў песенным выкананні? А зрэшты, твор, што набліжаецца да фальклорнага альбо наогул мае тэндэнцыю калі-небудзь зрабіцца ім, надзелены і яшчэ адной асаблівасцю: непазбежнасцю ўздзеяння асяродка, у якім ён прыняты як свой...)

Бачым цяпер: стаўленне, а дакладней пачуццё да бяроз у паэта не адно толькі сімвалічнае, а прасвечана, сагрэта адчуваннем сардэчнай сыноўняй далучанасці. Па духоўнасці сваёй — гэта зямное рэха нашай зорнай беларускай душы, нашай беларускай песні, адзін з узораў якой, прыгадаем для прыкладу, пададзены ў томе "Песні народных свят і абрадаў", што быў укладзены і адрэдагаваны Нілам Гілевічам:

*Бяроза з лістом, бяроза з лістом*
*Усю восень шумела:*
*"Лісточак жа мой, зялёненькі мой,*
*Ты ж мяне пакідаеш"*
*— Нябось, бяроза, нябось, белая,*
*Я цябе не пакіну.*
*Увосень ападу, вясной нарасту*
*І з табою буду!..*

Песеннасць верша Ніла Гілевіча — у яго арганічнай народнасці, дзе слова і музыка як бы існуюць у адзінстве сваім генетычна, — і ў гэтым жа адзінстве з'яўляюцца на свет, народжаныя натхненнем мастака.

А то: хіба не пераклічныя адгалоскі тэзіса-крэда Ніла Гілевіча прайсці "эстэтычную і этычную школу вуснапаэтычнай творчасці, а дакладней — школу народнасці" — у песнях, прамоўленых-праспяваных паэмаю "А дзе ж тая крынічанька":

*Казачэнька мой міленькі,*
*Дзе ж мы будзем начаваць?*
*— У зялёным гаю,*
*ты ляжаш скраю...*
*Казачэнька мой міленькі,*
*Чым мы будзем накрывацца?*
*— Я — цёмнай хмарай...*

Ці вось гэта:

*А на гары ялушачка,*
*Пад гарою стаіць сосна.*
*Ой, я пяю, весялюся,*
*А на сэрцы маім млосна.*
*А на сэрца слёзкі льюцца*
*Неспатольна, несціхана:*
*Поле маё шырокае*
*Не арана, не пахана.*
*Лугі мае зялёныя*
*Не кашоны, не сушоны...*

Пазнаяце — водгулле-рэха? Чуеце — горыч, прысмак часу?..

Дык пра што мне шэпчуць бярозы, пра што кажа ў думную хвіліну верш Ніла Гілевіча?

Пра тое, што:

— без радзімы паэт — бяскрылы,

— без народа паэт — безгалосы,

— без часу паэт — пустацветны.

Ніл Гілевіч не абдзелены: ён мае радзіму, жыве са сваім народам — у часе, наканаваным гісторыяй.

Душа паэта ведае, да якіх крыніц прыпасці, каб прычасціцца, да якіх бяроз прыгарнуцца...

**Васіль ЗУЁНАК**



Ніл Гілевіч і Янка Брыль


Васіль Вітка, Алесь Жук, Анатоль Грачанікаў і Ніл Гілевіч


Ніл Гілевіч і Іван Шамякін


Барыс Сачанка, рускі пісьменнік Міхаіл Аляксееў, Ніл Гілевіч і Максім Танк

Фота А. КАЛЯДЫ

# “У цябе нешта ёсць…”

Гэтак калісьці, гадоў за сорак таму, напісаў мне вядомы цяпер патрыярх нашай літаратуры Ніл Гілевіч. Гэтак ён ацаніў мае першыя вершаваныя спробы... Было гэта прыкладна ў 1954 ці пяцьдзесят пятым годзе. Я яшчэ вучыўся ў школе, а Ніл Гілевіч заканчваў універсітэт. У гэту пару на мяне нахлынуў паэтычны непакой. Цэлымі начамі напралёт я сядзеў і пісаў вершы. Гэта былі вершы пра раз'яднанасць людзей, якія аніяк не могуць агораць грамадскае гора, слепа выконваюць волю сваіх правадыроў. Памятаю, семнаццацігадовы, я абураўся:

***Людзі, людзі, зямныя стварэнні,***
***Вас ненавіджу больш усяго:***
***Гінулі рана, бяздумна, як мухі,***
***І хоць бы хто раз сказаў***
***штосьці сваё...***

Свае першыя вершы я і паслаў у Мінск Нілу Гілевічу. Чаму Гілевічу, а не камусь іншаму? На гэта адкажу так: мне была блізкая і зразумелая Гілевічава студэнцкая муза. Зацікавіла мяне і ягонае імя — Ніл. Мне была на памяці з урокаў гісторыі паўнаводная егіпецкая рака Ніл. А тут свой Ніл. Вось я і паслаў яму на суд свае вершы, свае паэтычныя трызны...

***Трэція пеўні прапелі,***
***А ты ўсё не спіш і не спіш:***
***Ляж, паляжы ў пасцелі,***
***Мо сон незвычайны прысніш...***

Неўзабаве я атрымаў з Мінска даволі ладны, на дзвюх доўгіх у клетачку старонках, уборыстым почыркам змястоўны ліст. Ніл Гілевіч пісаў:

*“Дарагі Валодзя!*

*Вершы Твае атрымаў. У цябе нешта ёсць: ці то гэта нераскрыты яшчэ талент, ці то гэта прага маладосці, юнацтва. Рытмам і рыфмай ты валодаеш добра. Але не зайсёды тваім вершам стае логікі... Ты пішаш: “Дзе рэчка ёсць — там луг зайсёды”. Не, не зайсёды: горныя рэкі не маюць лугоў. Далей ты пішаш: “Зайсёды бацька мой сяліўся”. З верша не вынікае, чаму твой бацька часта мяняў сваё жыхарства...”*

Гэты Нілаў ліст, як і свае дзённікі, я доўга бярог, усюды вазіў з сабою. Пабыў ён са мною нават у Мурманску, дзе я жыў пару гадоў, а пасля жыццё ў інтэрнатах неяк раструсіла мае першыя архіўныя зборы. Страціў я і Гілевічаў ліст. Я ім даражыў, шмат каму чытаў яго. І ўсё ж страціў. А вось пачатак ліста, які я тут працытаваў, запомніў слова ў слова, бо вельмі ж яны леглі мне на душу. У гэтых радках усё ж было хоць якое прызнанне майго якогасьці таленту, і яно, гэтае прызнанне, мяне ўвесь час грэла. Самому Нілу Гілевічу я адкрыўся ў 1971 годзе. Было гэта ў тэатры Янкі Купалы. Ніл Сымонавіч раздаваў аўтографы. Падышоў з ягонай кніжачкай “Ці грэх, ці два” да яго і я. Назваўся. Ніл Сымонавіч падняў галаву, з цікаўнасцю паглядзеў на мяне:

— Ці не той вы Содаль, што некалі прысылаў мне свае вершы?

— Той, — кажу.

— Вельмі цікава, вельмі цікава, — прагаварыў ён два разы. І, нібы павінавацўшыся, сказаў: — А ці не загубіў у вас сваім лістом паэта?

— Не, — кажу, — не загубілі. Я і застаўся паэтам — толькі ў прозе, у публіцыстыцы, проста ў слове.

— Цяпер, — кажа Ніл Сымонавіч, — я б зусім інакш на вашы вершы паглядзеў бы...

— Не, — кажу, — Ваш ліст якраз быў шчыры, цёплы і памяркоўны. У ім пра ўсё было сказана шчыра і далікатна і нават мудра. Ён пакідаў мне якуюсь надзею...

Паміж іншым, не гэтак даўно я пацікавіўся ў Ніла Сымонавіча, ці запомніўся яму той дзень, калі да яго прыйшлі мае вершы, і калі запомніўся, то як? І ці прысылаў яму да гэтай пары хоць хто свае вершы на суд, ці я быў першы?

На ўсе гэтыя мае пытанні Ніл Сымонавіч адказаў, што ён не толькі памятае, што я да яго колісь пісаў, але і захаваў адзін мой ліст. Вестка гэтая была такая нечаканая, што я, прызнаюся шчыра, захваляваўся. Захваляваўся за той ліст: “Што я там панапісваў? І як? Памылак у тым лісце, мабыць, не абабрацца... Пісаў жа я яго яшчэ тады, калі веды меў у адну столку...” Адным словам, сталы Содаль захваляваўся за юнака Содаля. А Ніл Гілевіч тым часам працягваў: “Неяк перабіраў свае паперы, чагось шукаў. Аж зірк — даўні ліст ад Валодзі Содаля. Не стрымаўся — перачытаў. І ведаеце, што скажу: не такі вы ўжо былі нясмелы пачатковец...”



*Р. Гарэцкі, Н. Гілевіч, Г. Дзмітрыеў, Дз. Бугаёў, С. Законнікаў, А. Пісьмянкоў у Горках ля хаты, у якой калісьці жыў Максім Гарэцкі. 1993 г.*

Гэтае азначэнне можна зразумець двухзначна: і як пахвалу, і як дакор за якуюсь настырнасць. Магчыма, у мяне было і тое, і другое. Мне тады здавалася, што я пішу вершы не горшыя за маіх літаратурных кансультантаў, а яны мяне не прызнаюць. Такое пачуццё ў мяне было тады. Дзесьці з такім пачуццём я і пісаў ліст Гілевічу, шукаючы ў яго падтрымкі, спагады. І такую падтрымку я ў яго атрымаў.

Я яшчэ нейкі час пасля таго пісьма пісаў вершы, але неўзабаве зразумеў: не такі лёгкі гэта занятак, як магло падацца на першы погляд. Мала ўмець зарыфмаваць радкі. Паэт павінен і думаць афарыстычна, вобразна. І шмат чаго іншага патрэбна, каб быць паэтам, песняром. А гэтага якраз, мабыць, не ставала мне, хаця паэтычны настрой, як я разумею зараз, не раз прыходзіў да мяне. Інакш як патлумачыць, чаму ж я тады праседжваў цэлыя ночы напралёт пры лямпе, схілёны над паперай, не адчуваючы ні часу, ні самога сябе, шукаючы таго адзінага радка, які б задаволіў маю душу, вызваліў бы яе ад вершаваных пакутаў? Нешта ж тады са мною рабілася! Хаця, калі сказаць шчыра, паэтычная імарасць і зараз жыве ўва мне, але выліваецца яна ў іншых жанрах і формах. Паэтычная імарасць — гэта такая з'ява, такі стан душы, пакуль на паперу не выкладзеш свае думкі, няма ні спакою, ні раўнавагі. Ходзіш амаль як п'яны. Нікога не бачыш, нічога не чуеш.

Згадваючы ўсё гэта, я ўсцешаны, што яшчэ юнаком угадаў у асобе Ніла Гілевіча масцітага літаратара, славяніна шырокай душы. І я гэтым ганаруся. Мы тады абодва былі яшчэ маладыя. Мне было ў пяцьдзесят чацвёртым семнаццаць, Нілу Гілевічу — дваццаць тры. Ён нават тады яшчэ не меў свае кніжкі. Тым не менш я, як чытач, ужо тады адчуў у Гілевічавай асобе сугучную мне глыбока народную постаць. Таму я і паслаў яму свае першыя паэтычныя мроі. Я магу лічыць Ніла Сымонавіча, калі ён не супраць, сваім хросным літаратурным бацькам.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

# На высокім алтары

Колькі год назад чытаў раман у вершах Ніла Гілевіча “Родныя дзеці”. Усё мяне захапіла: і сюжэт, і прыгажосць строф, і музыка радкоў. А галоўнае — я апынуўся ў такім блізкім і знаёмым мне асяродку жыцця, напоўненым сапраўдным беларускім духам. А якая філасофія, логіка, шырыня і глыбіннасць разваг ва ўступах да кожнага раздзела твора! Шмат што перачытваў па некалькі разоў. Узрушаны, занатоўваў у запісную кніжку:

***Мар'яна стала строга, сціпла***
***Перад маўклівай збажынай —***
***Як перад залай чуйна сціхлай***
***У ззянні зорнасці начной.***

І толькі пасля, калі крыху прыціхлі пачуцці, засяродзіўшыся, каб яшчэ і яшчэ раз сабрацца з думкамі і зразумець, што мяне так узрушыла ў гэтай страфе, усвядоміў да яснейшага ясна: цуд — вялікі цуд жыцця!

Мар'яна, дзіця прыроды, чытала самае запаветнае сваёй узрушанай узвышанасветлымі пачуццямі душы. І якая аўдыторыя слухала яе! Неабдымнае, напоўненае загадкавай, недаступнай розуму тайнай, мора збажыны. Яно, прымоўклае, прыціхлае, услухоўвалася ў шчырую споведзь Жанчыны, якая ўпершыню спазнала Каханне. Божа, якая аўдыторыя! Мільёны, мільярды каласоў — слых і зрок маці-зямлі. І ззянне зорнасці начной — яно надавала моманту непаўторную ўрачыстасць. Святлеўся і прыцішана дыхаў неабсяжны прастор зямлі і нябёсаў — прастор для вольнага палёту чалавечага духу.

А Мар'яна спавядалася: прызнавалася, каялася, клікала, звала, падала і ўзлятала, трымала перад нябачным каханым і ўважліваасяроджанай на яе малітоўных словах хлебнай нівай незвычайную ў сваёй гарачай шчырасці прамову:

***“Прыйдзі — як снег на квецень маю,***
***Прыйдзі — як бура на зямлю —***
***Не страшна мне, бо я — кахаю,***
***Не скрушна мне, бо я — люблю.***

***Я ўсё сцярплю, я ўсё стрываю***
***І ўсё навек благаслаўлю —***
***Адно адчуй, як я кахаю,***
***Адно спазнай, як я люблю.***

***Ці зладжу я з сабой — не знаю,***
***І аб адным цябе малю:***
***Не папракай, што я кахаю,***
***Не праклінай, што я люблю...”***

Два роднасныя словы — кахаю і люблю. А як яны, узважаныя і усвядомленыя Майстрам, з кожным радком набываюць новы сэнс і новае гучанне, да самага дна высвечваючы жаночую душу, робяць нас незвычайна чуйнымі да яе радасці і болю.

Адных “Родных дзяцей” ужо даволі, каб стаць класікам нацыянальнай літаратуры і заслужыць павагу і ўдзячнасць сваіх суайчыннікаў.

Ведаючы, што Ніл Гілевіч цікавіцца справамі нашай літаратурнай суполкі “Світанак”, што працавала пры раённай газеце “Пастаўскі раён”, я паслаў яму на суд нізку сваіх вершаў. Праз колькі часу атрымліваю ліст, датаваны 3 ліпеня 1995 года. Пачынаўся ён так: “Паважаны Аркадзь Іосіфавіч! Перабіраў пасля перасялення ў Дом урада старыя паперы — і знайшоў Ваш ліст з вершамі, пра які тады адразу ж хацеў нешта напісаць Вам, бо нават “птушачкі” і пытальнічкі стаяць, але штосьці перашкодзіла — так і засталося. Прасіць прабачэння ўжо няёмка, вершы разглядаць — калі Вы за гэты час напісалі шмат новых — таксама няёмка, — таму скажу колькі слоў пра іншае”.

Далей, як даўно знаёмы чалавек, паэт дзякуе: “Вас я ведаю не толькі па гэтых вершах, але і па тых, што друкаваліся ў “Руні”, у “Настаўніцкай газеце”, у “Звяздзе” (прыпеўкі), здаецца, і яшчэ дзесьці”.

Ведаючы, што я працую настаўнікам, ён шчыра распавёў далей: “Усё жыццё з павагай і спачуваннем думаю пра вясковых настаўнікаў, якім Бог, разам з любоўю да роднага слова, даў і творчую іскру, і якія сціпла, але нястомна, стараюцца з гэтай іскры распальваць агеньчыкі-вершы. Такіх настаўнікаў на Беларусі вельмі шмат — і дзякаваць Богу, бо менавіта на іх у значнай меры трымаецца ў нас беларускі настрой і беларускі дух. Адным з іх удаецца падняцца вышэй і пайсці далей у людзі, выдаць кнігу, а то і некалькі, другія застаюцца ў маштабах раёна, воблас(ці), — як любіў гаварыць П.У.Броўка: “Як каму пашанцуе”. Бывае і так, што вучань, якому такі настаўнік-паэт прышчапіў любоў да слова, перарасце настаўніка і стане вядомым і нават выдатным паэтам, — і хто скажа, што настаўніку ў гэтым разе не пашанцавала?..”

Ніл Сымонавіч як у ваду глядзеў — ён чытаў мае думкі. І што цікава: жывучы ў сталіцы і будучы ў водавароце такога разнастайнага пісьменніцкага і грамадскага жыцця, неўкім чынам знаходзіць хвілінкі, каб пацікавіцца, чым жыве літаратурная правінцыя, унікнуць у яе справы і праблемы.

“А другое, пра што хацеў бы сказаць, — вёў са мной гутарку Ніл Сымонавіч, — гэта мясцовыя суполкі паэтаў і пісьменнікаў і іх выданні (літстаронкі, або нават альманахі і зборнікі, як у вас у Паставах). Надзвычай важна, каб такія выданні жылі і пашыраліся. Бо ніхто не можа сказаць, калі і як з якой “раёнкі” можа пачацца вялікае літаратурнае імя. Зрэшты, і не толькі літаратурнае. У Еўропе, я ведаю, у правінцыі выходзіць шмат цікавых літаратурных выданняў. А ў нас тым... Ведома, чакалі нашага вымірання, ды ўсё гэта дзе там. Ну, а мы будзем жыць. І калі-небудзь і ў нас будзе як у Еўропе”.

Я ўвесь час пільна і зацікаўлена сачу за ўсімі публікацыямі Ніла Гілевіча ў абарону нашай роднае мовы. Якімі пакутамі, скрухаю і болем напоўнены радкі паэта, звернутыя да тых, хто бэсціць і зневажае нашы нацыянальныя святыні:

***Пагарда да роднага слова,***
***Да мовы, што з веку вякоў***
***І верай і праўдай суровай***
***Жывіла душу прабацькоў;***

***Пагарда да родных мелодый,***
***Да песень, што з гэтай зямлі***
***І гучнасць, і фарбы, і водар***
***У кожную ноту ўзялі...***

І мудрае папярэджанне:

***Помніце ўсе: калі вы зневажаеце***
***І абражаеце мову народа, —***
***Вы не ЯЕ — вы сябе прыніжаеце,***
***Нізкая ваша з вас лезе парода.***

Гаворачы аб немагчымасці каму б там ні было прынізіць, як і маці-зямельку, родную мову, паэт дае вельмі слушную параду:

***Ну, а калі ад кухоннага посуду***
***Дух ваш папросіцца ў высь Перунову —***
***Лепшага век вы не знойдзеце спосабу,***
***Як акунуць сябе ў родную мову.***

Думаю, ніхто не памкнецца аспрэчваць той факт, што Ніл Гілевіч не толькі ў пісьменніцкім асяродку, але і ва ўсёй Беларусі з'яўляецца самым гарачым, шчырым, паслядоўным, неадступным абаронцам беларускай мовы — **галоўным** яе абаронцам.

Я свята берагу экслібрыс, прысланы мне Нілам Сымонавічам, зроблены мастаком Я.Ціхановічам яшчэ ў 1971 годзе. Побач з партрэтам Францішка Багушэвіча словы: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”

Не хацелася б прыгадваць сумнавядомыя радкі, дзе прозвішча народнага паэта было пазначана з маленькай літары ды яшчэ і ў множным ліку. Чытаючы, я адразу і не паверыў, перачытаў яшчэ і яшчэ раз. Не — ніякага падману зроку. Доўга я сядзеў у задуменні, нейкі ўвесь як здратаваны. Самі сабой пацягнуліся “рука к перу, перо к бумаге”...

Атрымліваю ліст ад Ніла Сымонавіча. Пісаны 25 снежня 1996 года. Радкі вельмі ўзрушаныя: “Дарагі Аркадзь Іосіфавіч! Каб менш грахоў пераносіць у новы год — спяшаюся ўсё-такі сёлета падаць Вам гэты голас, які, спадзяюся, пачуе і ўсявышні. А голас мой — гэта голас шчырай удзячнасці Вам за ўвагу і, мабыць, якую я адчуў і ў вершы да майго юбілею (фу, да чаго ж мне не да душы гэтыя юбілеі!), і ў апошнім, які Вы прыслалі ў “ЛіМ”, — у абарону маёй чалавечай годнасці і гонару (відаць, “ЛіМ” яго не надрукуе, але для мяне важна, што ён напісаны, што ён ёсць, што ёсць людзі, якія абразу Н.Г. успрымаюць як асабістую)...”

Народны паэт — не з ласкі высокіх кабінетаў. Народны — па нацыянальным духу, па накіраванасці думак, па вечнай знітаванасці са сваім народам і бацькоўскай зямлёй, па высокім чалавечым стаўленні ”...да памяці продкаў. Да славы і гонару іх, Да іхніх мазольных наробкаў, Да іх курганоў векавых...”, па той мужнай і самаадданай працы на ніве Адраджэння. Нездарма ж паэт заявіў: “...Душа мая і ў небе будзе трызніць Беларуссю...”

Схіляючы голаў перад пісьменніцкім і грамадзянскім подзвігам Песняра, па-вучнёўску ўсхвалявана прамаўляю яму свае сціплыя словы:

***Зарабіўшы першы кусок хлеба,***
***Зразумелі, што жыццё — не фэст.***
***А сягоння волатам да неба***
***Узняліся, нібы Эверэст.***

***s***

***Ва ўсе бакі бязмежжа даляў,***
***Вышыня, прастор для дужых крыл.***
***Упісана ў паэзіі скрыжалі***
***Золатам навек: ГІЛЕВІЧ Ніл.***

***Грэх сказаць, што шчасце не спазнана,***
***І што вузкаю была шаша.***
***Толькі, як жывая тая рана,***
***Увесь час баліць чагось душа.***

***Гэты боль, напэўна, й не пакіне,***
***І ён будзе мучыць зноў і зноў,***
***Покуль нашы бэсціцца святыні***
***З боку ўлад і розных дзікуноў.***

***Моські Вам кідаюцца пад ногі,***
***З-за вуглоў цкуюць — кусі,кусі!***
***Не, не збіць ім з выбранай дарогі***
***Песняра ўсёй Белае Русі!***

***Ці такое намі перажыта,***
***Пройдзе час — апомніцца народ.***
***А у Вас штогод сцяною жыта,***
***Як ні ў кога, добры ўмалот.***

***І, вядома, слыннаму паэту***
***Цяжкавата — цісне славы груз.***
***Паказалі вы усяму свету,***
***На што здатны шчыры беларус.***

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

*Фота А. КАЛЯДЫ*

АДГАЛОСКІ

# Пішам, каб нас чыталі?

Пасля нядоўгага летавання ў вёсцы (дзе ў гаспадыні-пенсіянеркі ні добрых газет, ні спраўных радыё і тэлевізара) пачаў гартаць свае нешматлікія ўлюбёныя выданні. Навіны зрэдку прыемныя і — што зробіш — невясёлыя, а то й сумныя.

І раптам вока трапіла на тое, што мне асабліва цікавае, — на артыкул пра мову ("ЛіМ", 27.07.2001). Цікавасць падвышалася тым, што яго аўтар — вядомы пісьменнік, літаратуразнаўца Уладзімір Казбярук. Ведаем жа, ад пісьменнікаў можна пачуць аўтарытэтнае, вартаснае слова пра нашу мову, пра яе культуру. Памятаюцца выступы ў друку Яна Скрыгана, Максіма Лужаніна, Рыгора Шкрабы...

А гэтым разам? Аўтар выказвае свае думкі наконт ужывання асобных прыказак, фразеалагізмаў і слоў, у прыватнасці, прыметнікаў тыпу *найпрыгожы.* Звяртае на сябе ўвагу методыка аналізу моўных фактаў.

Прачытайма адпаведны ўрывачак з артыкула У. Казберука.

"...Нідзе — ні на Беласточчыне, ні на Наваградчыне, ні на Полаччыне, ні ў іншых месцах я не чуў слоў тыпу "найдобры", "найсмачны", "найпрыгожы". Але вось пачаў сустракаць іх у паэтычных творах. І адразу атрымліваецца такое ўражанне, быццам да мёду нехта дадае прыправу з дзёгцю. Вядома, па-руску можна гаварыць і пісаць "предобрый", "премилый", "премудрый", "презабавный". Тое ж самае мы назіраем і ў польскай мове. Але ў нашай мове спрабуюць карыстацца такімі формамі людзі, якія як быццам у штодзённым жыцці думаюць не па-руску і не па-польску. Вось якія дзівы дзіўныя здараюцца".

Тэкст выклікае шмат пытанняў — можа, і цераз празмерны лаканізм. Няхай выбачае Уладзімір Міхайлавіч, рабіць розныя здагадкі, дапушчэнні (мо не ўсе правільныя) нас прымушае ягоны аўтарскі тэкст, які ўжо стаў літаратурным фактам. Гэта ж не проста занатоўка нейкага спантаннага, непрадуманага "маўлення", а публічны выступ навукоўцы, у якога кожнае слова (так мае быць) — узважанае, доказнае, адказнае.

Дык вось у навуковых адносінах прыведзены тэкст, як кажуць, не вытрымлівае крытыкі. Гэта не спроба разабрацца з новымі (хай сабе толькі на погляд аўтара) моўнымі фактамі, а ўжо гатовае адразу адмаўленне: не чуў, не ведаю, не хачу і пад...

На чым грунтуецца такая пазіцыя (адмоўная ацэнка)? Па-першае, на меркаванні, што адпаведных слоў няма ў жывой народнай мове, па-другое, на суб'ектыўным успрыманні моўных фактаў — "новыя" словы не падабаюцца, выклікаюць непрыемнае ўражанне.

"Не чуць" можна з розных прычын: тэма гаворкі не вымагала гэткіх формаў; той, хто слухае, мог быць няўважлівы ці глухі (хоць бы ў пераносным сэнсе); а мог проста забыцца.А хіба невядома, якую "самабытную", "нерушную" мову можна пачуць у нашых цягніках, аўтобусах, на вакзалах? Іншая рэч, калі б чалавек выязджаў у дыялекталагічныя экспедыцыі, каб запісваць пэўныя моўныя адзінкі.

Апошняя прычына (забыўлівасць) цалкам верагодная: формы тыпу *найважны* ўжываюцца даўно ў беларускай мове, а ў артыкуле У. Казберука падаюцца як такія, што толькі цяпер уводзяцца ў мову.

Не думаю, што даследчык гісторыі беларускай літаратуры не чытаў мастацкіх твораў 20—30-х гг. і не заўважаў такіх прыкметных формаў, як *найзлосныя ворагі* (М. Чарот), *найвыдатныя тэхнікі і вынаходцы* (А. Мрый), *нешта найлюбае, найжаданае* (У. Жылка) і інш. Сустракаюцца падобныя формы ў навуковых выданнях, напрыклад, у кнізе "Д-р Іпэль. Беларускае мастацтва" (Віцебск, 1925): *тры старыя найвыдатныя царквы, найстарадаўнія весткі.*

І ўжо ніяк не мог не знаёміцца У. Казбярук з творамі сваіх сучаснікаў — пісьменнікаў, журналістаў і калег-літаратуразнаўцаў, крытыкаў, якія ўжывалі згаданыя формы. Не будзем казаць: "многія", "шмат хто", "нярэдка", а дзеля большай доказнасці, нагляднасці называем канкрэтных аўтараў: Э. Агняцвет, А. Адамовіч, З. Азгур, М. Арочка, Р. Барадулін, П. Броўка, А. Бялевіч, Р. Бярозкін, Н. Гарагляд, Н. Гілевіч, М. Гіль, У. Гніламёдаў, М. Дукса, С. Законнікаў, К. Кірэенка, Г. Кісялёў, Я. Крупенька, А. Куляшоў, М. Купрэеў, Е. Лось, М. Лынькоў, В. Маеўскі, В. Макарэвіч, І. Мележ, В. Мыслівец, В. Рагаўцоў, І. Ралько, А. Русецкі, А. Руцкая, Р. Семашкевіч, Я. Сіпакоў, П. Сушко — пералік можна доўжыць (і пашыраць на кожную літару).

Формы кшталтам *найадказны* сустракаліся ў розных беларускіх перыядычных выданнях, асабліва часта — у 60—70-я гг. XX стагоддзя.

Варта даць хоць адзін прыклад такой формы ў кантэксце.

***Нас неаднойчы***
***пнуліся закрыць,***
***як закрываюць у музеі кросны.***
***Нас неаднойчы пнуліся***
***забіць —***
***у сэнсе пераносным***
***і НАЙПРОСТЫМ.***
*(Е. Лось. "Людзьмі завемся..." 1969 г.)*

З выказвання У. Казберука вынікае, што "спрабуюць карыстацца такімі формамі людзі" незалежна ад уплыву рускай ці польскай моваў. Калі гэта сапраўды так, то заканамерна паўстае пытанне: адкуль гэтыя людзі (аўтары) узялі злашчасныя формы? Адказ фактычна ўжо дадзены нашым матэрыялам. Сёння аўтары працягваюць карыстацца ранейшымі моўнымі набыткамі беларускіх літаратараў і навукоўцаў, чаго, даводзіцца прызнаць, не жадае заўважаць кваліфікаваны даследчык літаратуры.

Як мы ўжо бачылі, асаблівую ролю ў ацэнцы формы слова аўтар філалагічных нататкаў адводзіць яе крыніцы, а менавіта яе нібы адсутнасці ў народна-дыялектнай мове. Гэты чыннік істотны, але не вырашальны. Мноства слоў беларускай літаратурнай мовы (штучныя вытворы, тэрміны, запазычанні) не мае выяўленай народна-дыялектнай асновы. У справе літаратурнага ўсталявання моўнай адзінкі вялікае значэнне набывае ўзор, прыклад ужывання, які даецца аўтарытэтным выданнем, аўтарам. Увогуле ж тут гэтыя самыя "дзівы дзіўныя здараюцца", сказаць болей дакладна — дзейнічаюць пэўныя заканамернасці, прычыны, якія вызначаюць развіццё мовы.

Зрэшты, не такая ўжо "бязродная" ці "набродная" разгляданая форма прыметніка. Пра яе сувязь з беларускай моўнай глебай сведчаць некаторыя факты.

Зазірнем у "Слоўнік беларускай мовы" І. Насовіча, які ў значнай меры адлюстроўвае рэальны лексічны склад беларускай мовы XIX ст. Там усяго адно, што да нашай гаворкі, слова, але яно, як пішуць паэты, даражэй ад золата. Падаём слоўнікавы артыкул цалкам.

НАЙВЫБО́РНЫЙ, прев. ст. НАЙВЫБОРНЕЙШИЙ, прил. Отчличный, отличнейший, самый лучший. Найвыборный конь. Найвыборная дорога. Найвыборнейший выбрали мы день.

"Расійска-беларускі слоўнік" (1928) С. Некрашэвіча і М. Байкова падае: *премилосердный — найміласэрны.*

І — прыклад з фальклорнага твора, запісанага ў вёсцы Ляды Чэрвеньскага раёна: "Бяры кап'ё **найвострае...**"

"Граматыка беларускай мовы" (1962) канстатавала наяўнасць "у мове мастацкіх твораў некаторых пісьменнікаў" формаў тыпу *найадважны, найзлосны,* падкрэслім, не мяшаючы іх з дзёгцем, а толькі памяркоўна зазначаючы, што яны "не з'яўляюцца агульнай нормай".

Трыццаць гадоў таму ў "Настаўніцкай газеце" (6.10.1971) быў надрукаваны мой артыкул, у якім выказвалася думка пра мэтазгоднасць ужывання такіх формаў прыметнікаў.

Вернемся зноў да цытаты з публікацыі У. Казберука. Неяк няўдала праведзена параўнанне з рускай і польскай мовамі. Словы *премилый* і пад. сапраўды зафіксаваны ў рускіх тэкстах. Але ж, калі быць дакладным, не зусім "тое ж самае мы назіраем і ў польскай мове" — там прыметнікі крыху адрозніваюцца: przemilu przepięknу ды інш. І ўжо ніяк нельга пагадзіцца, што і "ў нашай мове спрабуюць карыстацца **такімі** (падкрэслена намі. — **А. К.**) формамі..." Напэўна, маюцца на ўвазе прыметнікі *найлюбы, найпрыгожы* і пад. Калі падыходзіць да тэмы гаворкі навукова, то няма прычыны дзівіцца з таго, што беларуская мова шукае свае адпаведнікі польскіх і рускіх прыметнікаў: яна мае на гэта права.

Дарэчы, формы, аналагічныя беларускім тыпу *найцесны,* вядомыя рускай мове (паводле граматык, яны па-за межамі літаратурнай нормы). Падамо прыклад.

***И светильники не примиряются***
***с темнотой***
***в НАИТЕМНЫЕ дни,***
***а гасильники притворяются,***
***что светильники —***
***это они.***
(*Е. Евтушенко. "Казанский университет"*)

Такім чынам, галоўны аргумент, выстаўлены У. Казберуком супраць паданалізных формаў прыметнікаў, — што яны не ўжываюцца ў беларускіх гаворках, — вельмі небясспрэчны. Другі аргумент — індывідуальная негатыўная ацэнка слоў тыпу *найпрыгожы* на падставе першага ўражання ад іх — ігнаруецца моўнай практыкай, якая часткова прыняла такія формы прыметнікаў.

Разгледжаны матэрыял яшчэ раз ілюструе аксіёму: гаварыць пра сур'ёзнае (мову) належыць сур'ёзна.

**Алесь КАЎРУС**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Ладзіць ТБМ!

**4 кастрычніка а 18-ай гадзіне ў тэатральнай зале Чырвонага касцёла пройдзе вечарына народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, прысвечаная яго 70-годдзю.**

## Інстытут Гётэ прадстаўляе

У кастрычніку дыяпраглядам у рамках семінара "Сучасныя тэндэнцыі і новыя формы мастацкай культуры Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" распачынаецца культурная праграма Інстытута Гётэ. Дыяпрагляд адбудзецца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Лістапад багаты на музычныя сустрэчы: у Доме дружбы адбудзецца канцэрт ансамбля "Камерныя салісты", прысвечаны сынам Баха і іх уплыву на станаўленне класічнай музыкі; у зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі ў выкананні В.Скорабагатава і іншых прагучаць песні на музыку Шумана, Шуберта, Брамса ў перакладзе В. Сёмухі. 6 лістапада ў Музеі сучаснага мастацтва адкрыецца міжнародная выстава графікі "Вокны аднаго горада", удзел у ёй бяруць графікі з Германіі, Польшчы і Беларусі. У снежні Інстытут Гётэ рыхтуе чарговы прагляд відэафільмаў і матэрыялаў у рамках семінара "Сучасныя тэндэнцыі і новыя формы мастацкай культуры Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" ў БДАМ. Таксама 4 снежня ў М-галерэі Інстытута Гётэ адбудзецца выстава Дэніса Сінюгіна "Дробязі жыцця". У снежні чакаецца паказ нямецкіх кінафільмаў у кінатэатры "Перамога", а таксама чытанне і выстава Дзіка Браўнса "Уражанні ад Чарнобыльскага падарожжа" ў Дзяржаўным літаратурным музеі імя Я. Купалы.

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Ці тым думала?

(З НАРОДНАГА)

***Эх, думала, думала —***
***ўсё передумала.***
***Думала, думала,***
***думала я.***
***А як падумала:***
***"Чым жа думала?"***
***"Лепш бы не думала", —***
***думала я.***

### Без віны вінаватыя

***Злаўмысна справу***
***робіць ліха,***
***Пасля ківае на Пятра.***
***Балюча ўкусіць***
***камарыха,***
***А вінавацяць камара.***

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Урок гісторыі, просты да банальнасці: сцеражыцеся другарадных народных камісараў па справах нацыянальнасцей.

●

Акцёр заўжды іграе. Калі няма роляў — сябе самога, нешчаслівага. Іншая рэч — як.

●

Каб выратаваць малое дзіця Марціна Бормана, яму далі прозвішча Берман, і ён вырас, нічога не ведаючы аб злачынствах бацькі. Па чутках, вартых даверу, з пазашлюбным дзіцем Лаўрэнція Берыя здарылася такая ж гісторыя. Выручае зрэдчас і "пятая катэгорыя".

●

Такая газета цікавіла б многіх — каб адны красворды і некралогі. Дык не — разбаўляюць міжнароднымі трывогамі.

●

Татуіроўка з памылкамі. "Прабачце, міс, выправіць ужо немагчыма". — "А я не звяртаю ўвагі на правапіс — горда праходжу міма".


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**







**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 27.9.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 5612

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12